











АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

27 кастрычніка 1999 года
Цана 40 000 рублёў

№ 43 (2653)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі

Выдаецца з 1955 г.


**АФІЦЫЙНА**

## ДА МОРА ПРАЗ КАЛІНІНГРАД

Шляхі развіцця ўзаемавыгаднага эканамічнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Калінінградскай вобласцю разгледжаны ў ходзе візіту дэлегацыі нашай краіны ў гэты расійскі рэгіён. Ён адбыўся 14—15 кастрычніка. Было падпісана Міжнароднае пагадненне аб доўгатэрміновым супрацоўніцтве Калі*нінградскай вобласці з рэгіё*намі і органамі дзяржаўнага кіравання Беларусі.

У дакуменце асаблівая ўвага надаецца пытанням выкарыстання калінінградскага порта, рыбалоўства і перапрацоўкі рыбы.

Прадугледжваецца таксама развіццё гандлёва-эканамічных адносін у прамысловасці, сельскай гаспадарцы, транспарце і іншых сферах.

Візіт гэты вельмі важны для нашай краіны, сказаў карэспандэнту БелТА першы намеснік міністра замежных спраў Валянцін Вялічка. Калінінградская вобласць — багаты край, дзе ёсць і нафта, і спадарожны газ, 80 працэнтаў сусветных запасаў бурштыну. Тут жывуць больш як 900 тысяч чалавек, у тым ліку амаль сто тысяч беларусаў. Гэты рэгіён ужо сёння з'яўляецца для нашай рэспублікі важным стратэгічным і эканамічным партнёрам.

Калінінградская вобласць уваходзіць у дзесятку рэгіёнаў Расіі, на долю якіх прыпадае больш як 70 працэнтаў усяго гандлёва-эканамічнага абароту Беларусі з гэтай краінай, а па экспарту цвёрда займае шостае месца. Традыцыйныя тавары, што адтуль атрымліваем, — газ, рыба і рыбапрадукты, цэлюлоза і папера, паведаміў першы намеснік міністра замежных спраў. Мы ж пастаўляем у гэту вобласць угнаенні, нафтапрадукты, драўніну, будаўнічыя матэрыялы, керамічныя вырабы.

Валянцін Вялічка адзначыў, што аб'ём знешнегандлёвага абароту Беларусі і Калінінградскай вобласці ў мінулым годзе склаў 146 мільёнаў долараў ЗША пры станоўчым сальда 77 мільёнаў долараў. На тэрыторыі гэтага расійскага рэгіёна наша рэспубліка цяпер мае больш як 30 сумесных прадпрыемстваў.

Паводле слоў Валянціна Вялічкі, асабліва Беларусь цікавіць работа портаў, прадпрыемстваў па здабычы рыбы і яе перапрацоўцы. Цяпер у Калінінградскай вобласці не хапае сродкаў і фізічных магчымасцей, каб адлоўліваць рыбу па той квоце, якая ёй выдзяляецца ў вызначаным раёне Балтыкі. З-за гэтага больш чым 30 тысяч тон рыбы каштоўных парод па гэтай квоце не вылоўліваецца. Змяніць становішча можа ўзаемадзеянне.

Да візіту дэлегацыі было прымеркавана і адкрыццё ў Калінінградзе выставы-продажу беларускіх тавараў народнага спажывання. Іх прадставілі больш як 60 прадпрыемстваў "Беллегпрама" і "Белнафтахіма", "Белмясцпрама" і "Белкамунмаша".

**ВІНШУЕМ!**

Сваё дзесяцігоддзе тэатр "Зьніч" адзначыў на ўласнай сцэне. Увечары 20 кастрычніка ў касцёле святога Сымона і святой Алены, што ў цэнтры Мінска, сабраліся вядомыя акцёры, пісьменнікі, мастакі, паклоннікі тэатральнага мастацтва. Нагодай паслужыла адкрыццё пры касцёле сцэны Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч" і малой залы Белдзяржфілармоніі. У мастацкага кіраўніка тэатра Галіны Дзягілевай і ў ксяндза-магістра касцёла Уладзіслава Завальнюка задача адна — фарміраванне духоўнасці і любові да гісторыі Беларусі і яе мовы.

На новую сцэну ў гэты вечар выходзілі заслужаныя артысты Беларусі Ларыса Горцава, Уладзімір Шэлестаў, Віктар Скорабагатаў, Дзяржаўны камерны хор. Пранікнёна гучалі мелодыі ў выкананні хору "Голас душы" пад кіраўніцтвам Таццяны Ганееўскай.

### АНОНС

**Чытайце ў наступных нумарах:**

- **"І ўзлёт душы, як з цёплай далані..." Разважанні Бажэны ШЭР, прафесара парыжскай Сарбоны, аб беларускай нацыянальнай адметнасці.**
- **"Прыход Рыбалы" — новая кніга вядомых краязнаўцаў і даследчыкаў гісторыі праваслаўя ў Польшчы айца Рыгора Сосны і Дарафея Фіеніка.**
- **Вершы паэткі дваццатых гадоў Ганны БРЭСКАЙ, апавяданні Міколы ЕРМАЛОВІЧА і Генадзя АЎЛАСЕНКІ.**
- **"Голасу Радзімы" — ад цёзкі". Такі аўтограф дала спявачка Ірына Дарафеева нашаму карэспандэнту ў час гутаркі.**

**СПОРТ**



У Нацыянальным алімпійскім камітэце Беларусі прайшла сустрэча з нацыянальнай зборнай па мастацкай гімнастыцы. Нашы гімнасткі на чэмпіянаце свету ў японскім горадзе Асака заваявалі восем медалёў і алімпійскія ліцэнзіі, якія даюць права выступаць на Алімпійскіх гульнях у Аўстраліі.

НА ЗДЫМКАХ: нацыянальная зборная Беларусі па мастацкай гімнастыцы.

Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.

## НА АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ Ў СІДНЕЙ

**Удакладнены і ўзгоднены ўсе неабходныя міжнародныя спартыўныя дакументы, што тычацца знаходжання беларускай зборнай на Алімпійскіх гульнях у Сіднеі, — такі вынік рабочай паездкі шэфа місіі Аляксандра Грыгорава і генеральнага сакратара Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі Анатоля Іванова. Пасля вяртання яны падзяліліся ўражаннямі з карэспандэнтам "Советской Белоруссии".**

— За два дні знаходжання ў Аўстраліі нам удалося вырашыць шмат пытанняў. У прыватнасці, мы агледзелі многія алімпійскія аб'екты. Усе яны размешчаны блізка адзін ад аднаго — у алімпійскім парку Сіднея. Менавіта там будуць праходзіць спаборніцтвы па 14 з 28 відаў спорту.

Алімпійская вёска, як звычайна, размясцілася вельмі кампактна. Яна забудавана пераважна невялікімі домікамі. Нашы атлеты, як мяркуецца, будуць жыць у двухпавярховых катэджах з усімі выгодамі. Месца мы выбралі далей ад цэнтра з яго звычайнай мітуснёй, у зоне, што побач з малой сталовай і службай бяспекі.

З дапамогай нашага аташэ Джэніфер Макей, якая дарэчы, з'яўляецца кансультантам па пытаннях прамысловасці ўрада Аўстраліі, удалося таксама заключыць дагаворы аб перадалімпійскай падрыхтоўцы ў некаторых відах спорту.

Нам прадставілі аднаго з трох валанцёраў, добраахвотных памочнікаў каманды, — гэта былы адэсіт. На жаль, на падтрымку нашых суайчыннікаў-эмігрантаў нам наўрад ці давядзецца разлічваць. Беларуская дыяспара не надта ахвотна ідзе нам насустрач.

**НАПЯРЭДАДНІ**

## БЕЛАРУСКІ ФЛАГ НА ПАЎДНЁВЫМ ПОЛЮСЕ

Упершыню на Паўднёвым полюсе будзе ўстаноўлены беларускі флаг. Адбудзецца гэта прыблізна ў снежні будучага года, калі беларуска-расійская экспедыцыя адправіцца ў Антарктыду. Для перамяшчэння членаў экспедыцыі ў ільдах Антарктыды будуць выкарыстаны пнеўматычныя ўсюдыходы, сканструяваныя мінчанінам Віктарам Радкевічам.

Першыя выпрабаванні гэтых машын прайшлі нядаўна ў раёне пасёлка Волма пад Мінскам, дзе прысутныя змаглі ацаніць усе вартасці новага ўсюдыхода, а іх, як аказалася, шмат. Па-першае, гэтая машына пройдзе там, дзе "спасуе" любы іншы ўсюдыход — ні снежныя завалы, ні глыбокія равы, ні нават азёры не перашкода для гэтай тэхнікі. Са скорасцю каля 50 кіламетраў у гадзіну ўсюдыход нясецца па ўхабах і канавах, з лёгкасцю іх пераадольваючы.





*Пнеўматычны ўсюдыход у час выпрабаванняў. Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.*

Па-другое, хоць усюдыход і здаецца нязграбным і нават не зусім трывалым, ён можа цягнуць груз, які ў некалькі разоў перавышае яго ўласную вагу. Пры гэтым ціск на зямлю ўзнікае мінімальны. Каб пацвердзіць гэта, шасцёра смельчакоў леглі пад колы ўсюдыхода, які пераехаў іх, не прычыніўшы ніякіх пашкоджанняў. І трэцяя характарыстыка, вельмі важная для тых экстрэмальных умоў, у якіх будзе выкарыстоўвацца ўсюдыход, — расход паліва ў гэтай экалагічна чыстай машыны — усяго каля 9 літраў на 100 кіламетраў. Цяпер на Дзяржаўным падшыпнікавым заводзе пачынаюць выраб 12 "снегаходаў".

NEWS FROM BELARUS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BELARUS

**НОВАБУДОЎЛІ**



З ліпеня гэтага года ўсе, хто каардынуе і кантралюе будаўніцтва і рэканструкцыю буйных аб'ектаў Мінска, рэгулярна збіраюцца не ў службовых кабінетах, а непасрэдна на будаўнічых пляцоўках і аператыўна вырашаюць вытворчыя пытанні.

Адно з апошніх выязных пасяджэнняў штаба з прысутнасцю старшыні Мінгарвыканкама Уладзіміра Ярмошына праходзіла на важнейшым будаўнічым аб'екце горада — чыгуначным вакзале "Мінск" і прылеглых да яго плошчах.

НА ЗДЫМКАХ: старшыня Мінгарвыканкама Уладзімір ЯРМОШЫН (у цэнтры) праводзіць выязное пасяджэнне; такім у хуткім часе будзе чыгуначны вакзал "Мінск".



БелТА.

**МІНСК, ЗАХАРАВА, 28. ДОМ ДРУЖБЫ**

## ГАЮЧЫЯ СІЛЫ МАСТАЦТВА

Нядаўна ў мінскім Доме дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі прайшла выстава "Гаючыя сілы мастацтва", арганізаваная Беларускім рэспубліканскім таварыствам "Дзеці ў бядзе" і фондам "Жыццё пасля Чарнобыля".

Яе экспанатамі сталі карціны самадзейнай мастачкі Яны Паваротнай, якая праз сваю творчасць здолела перамагчы цяжкую хваробу. Былі прадстаўлены таксама дзіцячыя малюнкі, аўтары большасці якіх — хлопчыкі і дзяўчынкі, чыё здароўе не пашкадавала чарнобыльская віхура. Напрыканцы выставы яе ўдзельнікі атрымалі ад пасла Вялікабрытаніі ў Беларусі Іана Чарльза Келея падарункі са шчырымі пажаданнямі здароўя і дабрабыту. Аташэ Югаславіі Серж Міранавіч узнагародзіў лепшых юных жывапісцаў. Дзеці прынялі сувеніры ад англічанкі Моны Паш.

**Руслан АНАНЬЕЎ.**

**МІЖНАРОДНЫЯ СУВЯЗІ**

## РАЗАМ У БУДУЧЫНЮ

На пачатку кастрычніка ў Мінску пад дэвізам "Разам у будучыню!" прайшоў II Міжнародны фестываль недзяржаўных маладзёжных і дзіцячых арганізацый. Ініцыятарамі грандыёзнай акцыі выступілі Беларуская нацыянальная маладзёжная рада і нацыянальныя саветы Германіі і Швейцырыі. На працягу двух дзён прадстаўнікі больш чым 90 арганізацый з 10 краін свету з дапамогай маляўнічых стэндаў і тэатралізаваных дзеянняў імкнуліся як мага цікавей "разрэкламаваць" сваю дзейнасць. У выніку незалежнае журы вызначыла лепшыя арганізацыі, якімі сталі "Задзіночанне беларускіх студэнтаў "Розныя-Роўныя" і "Новыя твары".

Падчас "круглых сталоў" маладыя абмяркоўвалі свае праблемы і разам шукалі шляхі іх вырашэння.

Удзельнікаў і гасцей фестывалю чакала насычаная праграма. Барды, вакальныя і танцавальныя калектывы, зборная каманда беларускага клуба вясёлых і знаходлівых, студэнцкія тэатры гумарыстычных мініяцюр нікому не давалі сумаваць. Вялікую цікавасць гледачоў выклікала выступленне майстроў усходніх адзінаборстваў. З захапленнем сотні вачэй назіралі за "бітвай на мячах", якую прадэманстравалі апранутыя ў старажытную амуніцыю аматары рыцарскай культуры.

Прайшла выстава карцін і фотатвораў. На фестываль са сваёй тэхнікай завіталі ўладальнікі даўнейшых аўтамабіляў і аматары матацыклаў — байкеры. У вялікіх рок-канцэртах прынялі ўдзел папулярныя беларускія гурты "Нейра дзюбель", "Крама", "Reflex Blue", а таксама "Ferdinand" (Швейцарыя) і "Missing Link" (Германія). А ўначы шумнае жыццё перамяшчалася на сталічную дыскатэку "Arab-Snack".

Але ўсё ж такі галоўным дасягненнем фестывалю, па словах старшыні Беларускай нацыянальнай маладзёжнай рады Аляксандра Каранкевіча, з'яўляецца тое, што маладзёжныя арганізацыі здолелі праінфармаваць шырокую грамадскасць аб сваёй дзейнасці, падзяліліся вопытам з беларускімі і замежнымі калегамі, наладзілі новыя партнёрскія сувязі.

**Руслан АНАНЬЕЎ.**
**Фота аўтара і БелТА.**








**БЕЗ ТЭРМІНУ ДАЎНАСЦІ**

## НЕ ЗГАСЛА ПАМЯЦЬ ПРА АХВЯРЫ ВАЙНЫ

Да Вялікай Айчыннай вайны Заслаўе і яго наваколле былі асобным раёнам Мінскай вобласці. Мясцовыя жыхары называлі Заслаўе мястэчкам (афіцыйна гэты населены пункт быў гарадскім пасёлкам). У першы тыдзень баёў 64-й стралковай дывізіі Чырвонай Арміі супраць сіл германскага вермахта ў палон трапіла вялікая колькасць чырвонаармейцаў і камандзіраў. У лагерах для ваеннапалонных фашысты стварылі невыносныя ўмовы. У афіцыйных дакументах лічыцца 2 999 ваеннапалонных, што загінулі ў гэтым раёне. Іх расстралялі на вале і на могілках у Заслаўі, а таксама шмат ваеннапалонных было знішчана ў вёсцы Рогава.

Як толькі гітлераўцы ўвайшлі ў Заслаўе і ўстанавілі там свой парадак, яны з дапамогай мясцовых паліцаяў пачалі знішчаць прадстаўнікоў савецкай улады. 21 верасня 1941 года каля клуба гітлераўцы і паліцаі зверскі збілі, а потым расстралялі старшыню гарпасялковага Савета Мікалая Булду і старшыню сельпа Гершалевіча. Падчас акупацыі мястэчка на вале было закатавана і забіта каля 250 чалавек, у тым ліку камандзіраў і палітработнікаў Чырвонай Арміі.

У акце Заслаўскай раённай камісіі садзейнічання абласной надзвычайнай камісіі па ўстанаўленню і расследаванню злачынстваў нямецка-фашысцкіх акупантаў ад 5 кастрычніка 1944 года, які мы зараз можам прывесці (раней гэта зрабіць было цяжка, таму што такія дакументы засакрэчваліся), ёсць наступныя звесткі: закатавана і забіта 939 жыхароў раёна, у тым ліку 252 дзіцяці. Гэта тыя, чые прозвішчы ўстаноўлены. Аднак спісы былі няпоўныя, загінуўшых значна болей. На прымусовыя работы ў Германію вывезена 373 чалавекі.

Канцэнтрацыйны лагер — гета для яўрэяў канчаткова быў створаны ў Заслаўі ў верасні 1941 года. У будынку былога пагранатрада пасялілі больш за 150 жыхароў мястэчка і навакольных вёсак.

Першы пагром яўрэяў у Заслаўі адбыўся 26 верасня 1941-га. У мястэчка прыехалі 20 нямецкіх карнікаў. Яны акружылі будынак, дзе жылі яўрэі, і падпалілі яго. Згарэла каля 50 чалавек, частка людзей разбеглася. Мясцовыя паліцаі зноў сабралі яўрэяў і пасялілі іх на Базарнай вуліцы. Потым прапанавалі: хто пажадае, можа пераехаць да родзічаў у мінскае гета. Частка жанчын з дзецьмі і старых папаліся на гэтую правакацыю. Іх пасадзілі на фурманкі і павезлі пад аховай паліцаяў у бок вёскі Слабада. Аднак у лесе, ва ўрочышчы "Драніна", усіх расстралялі. Там было забіта каля 100 чалавек. Гэтае злачынства, па сведчанні мясцовых жыхароў, адбылося 29 верасня 1941 года.

Пасля вайны пачалося аднаўленне гаспадарчых і культурных аб'ектаў у Заслаўі. За кароткі час была ўзведзена значная колькасць будынкаў, у тым ліку сярэдняя школа. У ёй працуе апантаны, выдатны арганізатар, упарты ў дасягненні мэты, шчыра адданы сваёй працы чалавек — Раіса Трызна.

Калі Раіса Іванаўна даведалася, што ў раёне чыгуначнай станцыі Крыжоўка знаходзіцца нейкая забытая магіла ахвяр вайны, яна для высвятлення паходжання пахавання падключыла даследчыкаў ваеннай гісторыі і вайскоўцаў, супрацоўнікаў Заслаўскага гарвыканкама і Мінскага райвыканкама.

Раіса Іванаўна знайшла сведак тых далёкіх трагічных падзей. Жыхарка Заслаўя Наталля Лутkоўская паведаміла, што пасля першых рэпрэсіўных акцый гітлераўцаў і паліцаяў, якія знішчылі заслаўскіх яўрэяў, яшчэ засталося 35 маладых, прыгожых жанчын і дзяўчат. З іх здзекаваліся фашысты, білі, гвалтавалі, прымушалі выконваць невыносна цяжкую працу. Так адбывалася да 29 кастрычніка 1941 года, калі вязняў заслаўскага гета каты вывезлі ў лес і каля чыгуначнай станцыі Крыжоўка расстралялі. На гэтым месцы забівалі таксама ваеннапалонных.

Даследуючы ўсе акалічнасці тых далёкіх трагічных падзей, Раіса Іванаўна за чатыры гады ўпартай працы дабілася, што сёлета адкрыты помнік-стэла на магіле ахвяр.

**Марат БАТВІННІК.**

# «МАРШ СВАБОДЫ» ЗАВЯРШЫЎСЯ СУТЫЧКАЙ З АМАПам
## І ПАСТАВІЎ ПАД СУМНЕННЕ МАГЧЫМАСЦЬ ПЕРАГАВОРАЎ УЛАДЫ З АПАЗІЦЫЯЙ

17 кастрычніка прадстаўнікі апазіцыйных партый і рухаў правялі ў Мінску масавую акцыю "Марш Свабоды", у якой прыняло ўдзел больш за пяць тысяч чалавек. Акцыя была заяўлена лідэрамі апазіцыйных партый так званага "другога эшалона" Вінцуком Вячоркам, Алесем Бяляцкім, Дзмітрыем Бандарэнкам і іншымі яшчэ 30 жніўня. Задумвалася яна тады як акцыя ў падтрымку перагавораў паміж уладай і апазіцыяй аб правядзенні свабодных і справядлівых выбараў у наступным годзе. Аднак гэтая тэма падчас мітынгу і шэсця зусім не дамінавала, а дамінавала іншая — пратэст супраць намераў падпісаць саюзную дамову з Расіяй. Вінцук Вячорка нават дэманстратыўна спаліў апублікаваны нядаўна праект дамовы, як ён зазначыў, "у парадку абмеркавання", заявіўшы: "Саюз з Расіяй — гэта вайна, смерць і галеча".

Мінгарвыканкам дазволіў правядзенне "Маршу Свабоды" толькі на плошчы Бангалор і ў прылеглым парку ў Мінску. Апазіцыя была яўна незадаволеная гэтым і шматтысячнымі калонамі рушыла спачатку ад плошчы Якуба Коласа да месца мітынгу, а пасля мітынгу — па іншых вуліцах горада Мінска, бліжэй да цэнтра. Гэтыя шэсці былі несанкцыяніраваныя, яны надоўга спынялі рух транспарту. Міліцыя спрабавала кіраваць шэсцем, перагароджваючы дарогі, што вядуць у цэнтр горада, стужачкамі, спачатку дэманстранты паслухмяна зварочвалі ўбок ад гэтых стужачак, а потым пачалі іх рваць, разганяючы невялікія шэрагі амапаўцаў і абыходзячы шарэнгу з міліцэйскімі "УАЗікамі".

На вуліцы Першамайскай, непадалёку ад будынка Адміністрацыі кіраўніка дзяржавы, моладзь збіла некалькіх амапаўцаў, выкінуўшы іх шлемы за плот. Двум з іх давялося аказваць неадкладную дапамогу. А потым ля моста праз Свіслач пачалася сапраўдная бойка агрэсіўнай часткі дэманстрантаў з салдатамі ўнутраных войскаў. Некалькі соцень дэманстрантаў пачалі выдзіраць тратуарную плітку і кідаць яе, а таксама розныя палкі, камяні ў шарэнгі спецвойскаў. Град камянёў доўжыўся каля 15 хвілін, некалькі разоў войскі МУС адкідвалі дэманстрантаў, але тыя вярталіся і зноў атакавалі. Неўзабаве сілы аховы правапарадку рассеялі дэманстрантаў і пачалі арыштоўваць найбольш актыўных удзельнікаў беспарадкаў.

Такім чынам, падзеі 17 кастрычніка паставілі пад пагрозу правядзенне перагавораў паміж уладай і апазіцыяй, якія з такімі цяжкасцямі рыхтаваліся пры пасрэдніцтве Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ. Аднак лідэры апазіцыі амбіцыйна заяўляюць, што гэтая акцыя толькі "ўмацуе пазіцыі апазіцыі" на гэтых перагаворах.

Афіцыйныя ўлады вельмі негатыўна ацэньваюць падзеі 17 кастрычніка, аднак аб зрыве перагавораў з апазіцыяй пры пасрэдніцтве АБСЕ ніхто не гаворыць.

— Улада не будзе адмаўляцца ад гэтых перагавораў ні ў якім разе, гэта якраз апазіцыя паставіла сабе такую мэту, каб сарваць перагаворы, — зазначыў у інтэрв'ю "Звяздзе" намеснік кіраўніка прэзідэнцкай Адміністрацыі Іван Пашкевіч. — Улада заяўляла аб сваёй гатоўнасці да перагавораў, яна вяла іх і будзе весці. Тое ж, што адбылося 17 кастрычніка, — гэта правакацыя апазіцыі, скіраваная на тое, каб абяліць сябе ў вачах грамадскасці і адпрацаваць атрыманыя ёю грошы. Гэта першае. Па-другое, апазіцыя імкнецца такім чынам стварыць негатыўны імідж Беларусі ў вачах замежжа, каб паказаць, з кім вы, маўляў, тут размаўляеце. І па-трэцяе, апазіцыя пайшла на гэта, каб ачарніць беларускае кіраўніцтва перад самітам АБСЕ 17—19 лістапада ў Стамбуле і наладзіць там нейкую абструкцыю... Тут у мяне паўстае пытанне, ці ёсць у нас палітычная апазіцыя як такая або засталіся толькі хуліганы...

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**
("Звязда").



**ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ**




МакДОНАЛЬДС — асаблівая з'ява для нашай рэчаіснасці. У Мінску, канешне, ёсць прыгожыя рэстараны з добрай кухняй. Але туды мала хто ходзіць: трэба мець шмат грошай, нейкую вячэрнюю сукенку і гэтак далей. МакДональдс жа вызначаецца дэмакратызмам.

Першы куточак амерыканскага жыцця з'явіўся ў Мінску у снежні 1996 года. Беларусь стала сотай краінай, дзе пачаў працаваць МакДональдс. Сёння ён ёсць у 116 дзяржавах. У Мінску ніколі не было чэргаў накшталт маскоўскіх, адна з якіх у МакДональдс на Пушкінскай плошчы (з'явіўся ў 1990) увайшла ў Кнігу рэкордаў Гінеса. Па-першае, у Мінску адначасова адкрыліся тры рэстараны, а па-другое, быў ужо іншы час. Людзі паспелі паспрабаваць бульбу-фры і біг-мак і ў той жа Маскве, і за мяжу з'ездзіць.

У беларускай правінцыі МакДональдса няма. На словах каардынатара па сувязях з грамадскасцю рэстаранаў МакДональдс Вольгі Траян, разглядаюцца перспектывы будаўніцтва ў Брэсце і Гомелі.

Калі вышэй ішла гаворка пра дэмакратызм МакДональдса, не малася на ўвазе яго даступнасць па цэнах. Для сярэднестатыстычнага беларуса, які атрымлівае зарплату ад дзяржавы, з'есці біг-мак, бульбу-фры, дэсерт — нятанна, хоць у МакДональдсе сцвярджаюць, што рэстараны працуюць з невысокай нацэнкай, бо разумеюць эканамічную сітуацыю на Беларусі. Кошт гамбургераў і чызбургераў адрозніваецца ў кожнай краіне. Ён арыентаваны, акрамя акупнасці прадукцыі, на плацежаздольнасць насельніцтва.

Дарэчы, у Мінску ўсе прыемнасці МакДональдса абыходзяцца даражэй, чым, напрыклад, у Маскве, дзе працуе 50 рэстаранаў і пабудаваны Маккомплекс, які нарыхтоўвае паўфабрыкаты для сваіх патрэб і для Беларусі. Набываць прадукты там танней, чым будаваць для шасці існуючых рэстаранаў свой Маккомплекс у Мінску. Але ёсць іншая праблема, якая і тлумачыць розніцу паміж цэнамі ў рэстаранах Масквы і Мінска. На словах Вольгі Траян, усе беларускія кампаніі, што працуюць з Расіяй, вымушаны два разы (тут і там) плаціць падатак на дабаўленую вартасць, які ва ўсім свеце плаціць адзін раз у краіне спажывання прадукцыі і які аўтаматычна ўваходзіць у кошт тавару. Гэта значыць, што плаціць яго ў рэшце рэшт кліент. А ці аднолькавая якасць страў? Вось што на гэты конт кажа Вольга Траян:

— Якасць прадукцыі аднолькава высокая ва ўсіх краінах, дзе працуюць рэстараны МакДональдс. Смак гамбургера ў Маскве, Берліне і ў Мінску не адрозніш. Спецыфікацыя і стандарт дзейнічае ў дачыненні захоўвання, нарыхтоўкі. Адзінымі з'яўляюцца патрабаванні да сыравіны, тэхналогіі яе перапрацоўкі. Кожны з пастаўшчыкоў строга кантралюецца.

— Ці купляюць рэстараны МакДональдса сыравіну беларускіх вытворцаў?

— Мы выкарыстоўваем любую магчымасць набыць беларускія тавары, калі яны падыходзяць нам па якасці і цане. Бывае, што мясцовыя вырабы абыходзяцца даражэй за імпартныя, хоць у кошт апошніх уваходзяць выдаткі на транспарціроўку, таможныя паслугі. Амаль уся харчовая прадукцыя паступае з Масквы, выключаючы соль, цукар (купляем на месцы) і бульбу (прывозім з Галандыі).

На Беларусі набываем адзенне для персаналу, бытавую хімію, аднаразовы посуд, карыстаемся мясцовай паліграфічнай базай, паслугамі рэкламных агенцтваў.

— А як жа беларуская бульба?

— Для нашай прадукцыі неабходны асобы сорт. Даўжыня бульбіны складае 15 сантыметраў. Яна павінна добра захоўвацца, пераносіць замарозку. На Беларусі няма таго, што нам трэба. Таму ў 1998 годзе кампанія МакДональдс набыла за свае грошы і перадала Інстытуту бульбаводства Беларусі 20 тон галандскага насення. Ім засеялі эксперыментальныя палі. У нашых умовах галандская бульба дала нізкі ўраджай. Ён быў вышэйшы за сярэднебеларускі, але ў два разы меншы, чым на сваёй радзіме. Акрамя таго, спецыялісты адзначылі шэраг хвароб. Такім чынам, пакуль ад вырашчанага на Беларусі прыходзіцца адмовіцца. Дарэчы, у Расіі сітуацыя такая ж. Там спрабавалі вырасціць мясцовую сыравіну на працягу пяці гадоў. Але вынік быў нездавальняючы. Тэхналагічную лінію, завезеную для перапрацоўкі бульбы, давялося дэманціраваць.

— Раскажыце, калі ласка, хто працуе ў МакДональдсе?

— 75 працэнтаў абслугоўваючага персаналу — студэнты. Мы можам прапанаваць гібкі графік, пры састаўленні якога на наступны тыдзень кожны сам указвае, колькі і калі будзе на працы. Аплата пагадзінная. Мінімальная працягласць у дзень — 4, максімальная 8 гадзін. Маладыя людзі вучацца калектыўна працаваць, вытрымліваць высокі тэмп. Я лічу, што работа гэтая нялёгкая. Але сёння ў нас невялікая цякучасць кадраў. Людзі трымаюцца свайго месца. Дарэчы, за тэрмін існавання МакДональдса ў нас ні разу не затрымлівалася зарплата.

— МакДональдс становіцца ўсё менш даступным па цэнах чалавеку сярэдняга дастатку. Што вы думаеце на гэты конт?

— Тут справа ў эканамічнай сітуацыі, а не ў высокіх цэнах. Я жадаю ўсім нам перажыць цяжкія часы і зарабляць дастаткова на жыццё, на адпачынак і задавальненні. Тады МакДональдс не будзе раскошай для многіх, як сёння. Ва ўсім свеце ён агульнадаступны.

**Алена СПАСЮК.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**ЗДАРЭННІ**

### ЗЛОДЗЕЙ ПА АБ'ЯВЕ

Аб жаданні пазнаёміцца паведаміла ў адну з газет 28-гадовая непрацуючая *мінчанка. Хутка да яе ў госці зазірнуў малады сімпатычны мужчына.* Гэты раней судзімы мінчанін выкарыстаў знаёмства для цёмных спраў. У гасціннай гаспадыні ён украў тры залатыя вырабы. Дзяўчына нават не рашылася звярнуцца ў міліцыю. Але супрацоўнікі крымінальнага вышуку Савецкага РАУС даведаліся аб злачынстве праз пяць дзён, калі авантурыст быў затрыманы за грабеж.

### «АЛЬФА» НАРКОТЫКІ НЕ ЛЮБІЦЬ

Упраўленнем КДБ па Гомельскай вобласці пры ўдзеле групы спецпадраздзялення "Альфа" была праведзена аперацыя па спыненню распаўсюджвання і рэалізацыі ў Гомелі буйной партыі наркотыкаў.

У ходзе аперацыі былі затрыманы грамадзянін Таджыкістана і тры жыхары Гомеля, у якіх канфіскавана 3 кілаграмы марыхуаны і некалькі тысяч долараў ЗША. Узбуджана крымінальная справа па незаконным вырабе, набыцці, захаванню з мэтай збыту наркатычных сродкаў па папярэдняй змове групай асоб.

### ХАБАР НЕ ПРАЙШОЎ ГЛАДКА

У ходзе праведзенай праверкі супрацоўнікамі аддзела эканамічных злачынстваў Баранавіцкага ГАУС быў выяўлены факт атрымання хабару прадстаўніком мясцовага ваеннага камісарыята.

Ад 24-гадовага жыхара раённага цэнтра чалавек у пагонах "за рашэнне пытання аб адтэрміноўцы ад прызыву ў армію" атрымаў кругленькую суму — 500 долараў ЗША. Па даным факце ўзбуджана крымінальная справа.

### ПАДРОБЛЕНЫЯ ГРОШЫ

— А долар жа фальшывы, — гаворыць оперупаўнаважаны Віцебскага ўпраўлення унутраных спраў Сяргей КАСТРУКОЎ жанчыне, якая спрабавала збыць падробленую валюту.

Усяго ж з пачатку года супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Віцебскага УУС канфіскавалі з незаконнага перапродажу каля 27 тысяч долараў ЗША, 4 тысячы нямецкіх марак, 127 тысяч расійскіх рублёў, у тым ліку і нямала фальшывых.



БелТА.

**НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ**

# ЦЭНТР ГІСТАРЫЧНАЙ ДУМКІ

**15 кастрычніка споўнілася 70 гадоў з дня заснавання Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі**

У той далёкі дзень прэзідыум Беларускай акадэміі навук прыняў рашэнне аб стварэнні на базе кафедры гістарычнага профілю самастойнай навукова-даследчай установы — Інстытута гістарычных навук. Яго дырэктарам стаў першы прэзідэнт Беларускай акадэміі навук Усевалад Ігнатоўскі. Намеснікам дырэктара быў назначаны Васіль Дружчыц, аднакашнік Ігнатоўскага па гісторыка-філалагічным факультэце Тартускага



*Антон ЯСІНСКІ.*

універсітэта. Узнікненне інстытута такога профілю ў сістэме толькі што створанай Беларускай акадэміі садзейнічала разгортванню гістарычных даследаванняў у рэспубліцы. Аб іх напрамку сведчыла структура інстытута. У яго склад уваходзілі пяць камісій: гісторыі Беларусі, археалагічная, археаграфічная, гісторыі беларускага мастацтва і ўсеагульнай гісторыі ў сувязі з гісторыяй Беларусі.

З першых дзён утварэння вучоныя інстытута разгарнулі даследаванні па ўсіх перыядах гісторыі Беларусі. У вывучэнне старажытнага перыяду важкі ўклад унеслі археолагі Сяргей Дубінскі, Аляксандр Каваленя, Аляксандр Ляўданскі і іншыя. Яны правялі шэраг археалагічных экспедыцый, даследавалі помнікі ў басейнах Дняпра і Заходняй Дзвіны. Да Вялікай Айчыннай вайны было зарэгістравана каля 700 стаянак эпохі мезаліту, неаліту і бронзавага веку, больш за 800 гарадзішчаў і 200 селішчаў жалезнага веку.

Значны ўклад у вывучэнне праблем эпохі феадалізму ўнёс акадэмік Уладзімір Пічэта. Пытанні народна-вызваленчай барацьбы ў Беларусі даследаваліся акадэмікамі Васілём Шчарбаковым, феадальнага землеўладання — Антонам Ясінскім. У 1930 годзе акадэмік У. Ігнатоўскі надрукаваў манаграфію "1863 год на Беларусі". Гэта першае ў беларускай гістарыяграфіі грунтоўнае даследаванне паўстання 1863—1864 гадоў у Польшчы, Літве і Беларусі. У ім дадзены аналіз сацыяльна-эканамічных і палітычных прадпасылак паўстання, сацыяльны і нацыянальны склад удзельнікаў, падрабязная панарама яго ходу і развіцця.

У сакавіку 1931 года Інстытут гістарычных навук быў рэарганізаваны і атрымаў новую назву — Інстытут гісторыі Беларускай акадэміі навук. У яго склад увайшла на правах секцыі кафедра этнаграфіі.

Станаўленне інстытута адбывалася ва ўмовах сталінскага таталітарнага рэжыму, рэпрэсій. Каб павесці барацьбу з нацыянальнай інтэлігенцыяй, адпаведнымі органамі фабрыкуецца справа "Саюза вызвалення Беларусі" (СВБ). У 1930—1931 гадах па ёй было арыштавана больш за 110 чалавек, з іх 9 асуджаны на тэрмін ад 3 да 5 гадоў папраўча-працоўных лагераў, 77 — на высылку ў глыб Расіі, у тым ліку 31 вучоны Беларускай акадэміі навук. Шэраг з іх, у тым ліку У. Пічэта, былі пазбаўлены звання акадэміка за дзеянні, скіраваныя "супраць дыктатуры пралетарыяту і на зрыў поспяховага сацыялістычнага будаўніцтва".

З "выяўленнем" справы СВБ брудная кампанія абвінавачвання ў "контррэвалюцыйнай" дзейнасці пачала разгортвацца супраць У. Ігнатоўскага. Кастрычніцкі (1930 года) Пленум ЦК КП(б)Б прыняў пастанову вывесці яго са складу членаў бюро ЦК і высветліць сувязі У. Ігнатоўскага з СВБ "з мэтай вырашэння пытання аб магчымасці яго далейшага знаходжання ў шэрагах КП(б)Б".

Пачаліся выклікі на шматгадзінныя допыты ў адпаведныя органы. Вопытныя следчыя добра ведалі сваю справу і ўсё рабілі для таго, каб больш бруду знайсці ў біяграфіі сумленнага чалавека. Але і ў такіх складаных умовах Ігнатоўскаму хочацца працаваць, ажыццяўляць планы па далейшым развіцці



*Васіль ШЧАРБАКОЎ.*

беларускай гістарычнай навукі. У лісце ў ЦК КП(б)Б ад 8 лістапада 1930 года ён просіць пакінуць яго "ў радах партыі пры ўмове праверкі працы ў далейшым". У хуткім часе з'яўляецца пуб-



*Павел ГОРЫН.*

лічнае пакаянне Усевалада Макаравіча. Але нічога не дапамагло. 26 снежня бюро ЦК КП(б)Б прымае рашэнне аб зняцці яго з пасады прэзідэнта БАН. 16 студзеня 1931 года парткалегія ЦК КП(б)Б прымае пастанову аб выключэнні Ігнатоўскага з партыі, "як свядома прававадзіўшага па ўсяго перыяду прабывання ў партыі нацыянал-дэмакратычную ўстаноўку ў сваёй рабоце, з'яўляючагася фактычна кулацкім агентам у партыі... як чуждага элемента, адыграўшага на руку нацдэмаўскай кантррэвалюцыі". Не прыняўшы абвінавачванняў і не паверыўшы ў магчымасць даказаць у тагачасных абставінах іх неадпаведнасць рэчаіснасці, 4 лютага 1931 года У. Ігнатоўскі застрэліўся. У кастрычніку 1990 года з яго былі зняты ўсе палітычныя абвінавачванні, і ён пасмяротна быў вернуты ў рады кампартыі.

**Уладзімір НАВІЦКІ, доктар гістарычных навук, прафесар.**

(Працяг будзе).

**ВАНДРОЎКА З ІГАРАМ ГАТАЛЬСКІМ**

# З гісторыі Русінавіч

Едучы з Мінска па Слуцкай шашы, за Самахвалавічамі міжволі звяртаеш увагу на разлеглыя плантацыі гадавальнікаў дрэў, садовых і агароднінных культур. Тут, каля Самахвалавіч, размяшчаюцца доследныя гаспадаркі Інстытута бульбы, садоўніцтва і агародніцтва. Сярод іх — эксперыментальная база "Русінавічы". Недалёка, таксама на Пцічы, у Прылуках, у былым маёнтку, месціцца Беларускі інстытут аховы раслін. Напэўна, не выпадкова былі выбраны гэтыя мясціны для даследчых сельскагаспадарчых устаноў Беларусі. Высокая культура гаспадарання квітнела на пцічанскіх берагах яшчэ ў XIX стагоддзі, дзякуючы руплівым землеўласнікам: Чапскім у Прылуках, Ельскім у Ігнацічах (цяпер Калініна) і Дудзічах, Пастарнацкім у Пяцеўшчыне, Уняхоўскім у Русінавічах.

Цяпер Слуцкая шаша агінае пасёлак Самахвалавічы, пакідаючы яго па правы бок. Стары ж Слуцкі тракт ішоў якраз праз цэнтр мястэчка Самахвалавічы. Даволі стромкі спуск выводзіў тракт да драўлянага моста праз Пціч, побач з якім стаяў таксама драўляны вадзяны млын. Вялікае металічнае кола млына ў вадзе і сёння абазначае тое месца, дзе ад старога моста засталіся толькі драўляныя палі, загнаныя ў дно рэчышча ракі. Замест моста цяпер тут драўляныя кладкі, прызначаныя для пешаходаў. Пераехаўшы праз мост, падарожнік трапляў на галоўную вуліцу мястэчка Самахвалавічы — Мінскую, дамы якой належалі пераважна яўрэям.

Звернем адразу за мостам направа, на сучасную вуліцу Набярэжную. Некаторыя старыя дрэвы па баках гэтай вуліцы, забудаванай сучаснымі прыгожымі катэджамі, нагадваюць пра колішні парадны ўезд да маёнтка. Спачатку вуліца Набярэжная ідзе побач з Пціччу, затым паступова ўзнімаецца ўгару. Мінаем вялікія старыя драўляныя дамы з панскіх часоў — і спыняемся перад двухпавярховым мураваным будынкам, надпіс на якім сведчыць, што тут месціцца доследная гаспадарка. Гэта і ёсць старажытная сядзіба Русінавічы. Толькі галоўны сядзібны дом не захаваўся: ён быў разбураны ад фашысцкіх бамбёжак і пажараў у час Вялікай Айчыннай вайны. Не захавалася і брама сядзібы. Выгляд дома і брамы можна пабачыць толькі на старых фатаграфіях. Затое захаваліся некаторыя драўляныя будынкі побач: на вуліцы Паркавай, 16, і склад ля дома на Паркавай, 20.

Апісанні старых маёнткаў часам займаюць не адну старонку. Гісторыя ж Русінавіч вельмі кароткая. У XVII стагоддзі гэтая вёска і маёнтак называліся Сэкснаравічы і належалі роду Жыжэмскіх (герб Леў). У тым жа стагоддзі перайшлі ў валоданне Уняхоўскіх (герб Астоя), якія бязменна гаспадарылі тут ажно да першай сусветнай вайны, гэта значыць, больш як два стагоддзі. З родам Уняхоўскіх былі параднёныя іншыя вядомыя шляхецкія роды мінскіх ваколіц: Булгарыны, Ельскія.

Уняхоўскія зрабілі Русінавічы квітнеючай гаспадаркай. У канцы XVIII стагоддзя пабудаваны мураваны дом на два паверхі ў цэнтры з 4-калоннымі порцікамі на галоўным і паркавым фасадах. Бакавыя крылы дома былі аднапавярховыя. Пазней да правага боку дома прыбудавана яшчэ адно крыло, а да левага — двух'ярусная аранжарэя, ці зімовы сад.

Па значнасці багаццяў, якія захоўваліся ў панскім доме, Русінавічы маглі па праву называцца музеем. Старая антыкварная мэбля, карціны на розныя сюжэты, сямейныя партрэты, калекцыі парцаляны (фарфору), старажытнага крышталю, манет, рыцарскіх даспехаў, агнястрэльнай і сечнай зброі... Апошні гаспадар Русінавіч — Януш Уняхоўскі — не толькі ўпарадкоўваў уласныя зборы, але і выкарыстоўваў усялякую магчымасць, каб набыць каштоўнасці ў сваіх суседзяў і ў антыкварыятах. Гэтак у Русінавічах апынулася частка збораў Тышкевічаў з Лагойска. Частка русінавіцкіх збораў патрапіла пасля ў Варшаву ў Музей войска Польскага.



У канцы XIX стагоддзя маёнтак Русінавічы вызначаўся як адзін з найлепшых у Мінскім павеце ў сэнсе вядзення гаспадаркі. На высокі ўзровень было пастаўлена агародніцтва. Пры сядзібе меўся вялікі — плошчай 30 моргаў (21 гектар) сад, у якім раслі 4 тысячы дрэў. Гэты сад вымерз у лютыя маразы зімы 1939—40 года.

Цікавыя ўспаміны пра Русінавічы пакінуў вядомы расійскі літаратар, журналіст, крытык, сучаснік А. Пушкіна, ураджэнец Міншчыны Тадэвуш (Фадзей) Булгарын (1789—1859). Ягоная прабабка (бабуля яго бацькі), якую ён называе пані Анюхоўскай (такое ж прозвішча ўспамінаюць і цяперашнія старажылы Самахвалавіч і Русінавіч) была гаспадыняй Русінавіч.

З успамінаў Фадзея Булгарына вельмі добра ўяўляецца лад жыцця ў Русінавічах два стагоддзі таму. Мы ж пройдзем цяпер па кутках русінавіцкай сядзібы.

Асфальтавая дарога агінае будынак эксперыментальнай базы "Русінавічы" — месца, дзе стаяў сядзібны дом, і спускаецца ўніз да плаціны, якая перагароджвае невялікі ручай, што цячэ праз прысядзібны парк і ўтварае сажалку. Яшчэ адна плаціна ў парку стварыла другую сажалку. І хоць рыбы ў сажалцы і ў Пцічы зусім не столькі, як раней (прынамсі, карпаў няма), але рыбакоў з вудай можна сустрэць тут і цяпер. Тэрыторыя парку за сажалкай забудавана прыватнымі дамамі. На ўскрайку ля самай дарогі стаялі раней драўляныя панскія стайні. Іх разабралі. Цяпер на тым месцы — заасфальтаваная пляцоўка. Па другі бок дарогі — машынны двор, які месціцца на гаспадарчай частцы маёнтка Русінавічы. Некаторыя пабудовы яшчэ памятаюць паноў Уняхоўскіх. Насупраць машыннага двара ўвагу абавязкова прыцягне арыгінальная, круглая ў плане пабудова, накрытая конусападобным дахам. Яна вельмі нагадвае рэшткі старога замка. На жаль, ніякай рамантыкі тут няма. Гэта была сіласная вежа, пастаўленая пасля вайны і потым закінутая. Нядаўна яе паспрабавалі прыстасаваць пад арыгінальную краму-карчму: накрылі дахам, зрабілі ўваход і... кінулі гэтую справу.

Дайшоўшы да скрыжавання дарогі са старой жвіраванкай Самахвалавічы — Атоліна, павернем налева, каб зноў выйсці да паради най часткі сядзібы. Пясчаная дарога ідзе па штучнай грэблі. Калі перад уваходам у парк збочыць направа ў балаціну, акурат побач можна заўважыць крыніцу, што б'е з-пад зямлі і ўтварае ручаіну. Здаўна вада адсюль лічыцца гаючай. Парк у гэтай частцы сядзібы моцна здзічэў, парос хмызам і кустоўем. Нават той ручай, які пазней разліецца сажалкамі, знайсці цяжка. Але вось дарога пачынае ўзнімацца ўгару — і ў атачэнні соснаў на самым высокім месцы парку мы заўважаем воданапорную вежу. Недзе тут знаходзілася фамільная капліца-пахавальня ўладальнікаў Русінавіч — паноў Уняхоўскіх. Паводле ўспамінаў старажылаў, яна была нібыта ўкапаная ў пагорак. Труны знаходзіліся ў сутарэннях. У пачатку 1920-х гадоў стаяла гэтая капліца ўжо расчыненая. Туды лазілі дзеці, знаходзілі косці, адзенне. Неўзабаве ўсё ўвогуле разбурылі. У капліцы былі пахаваны не толькі Уняхоўскія (напэўна, і вядомая нам прабабка Фадзея Булгарына), але і іх сваякі з іншых родаў. Так у Русінавічах знайшоў вечны прытулак вядомы скрыпач, кампазітар, музычны крытык Міхаіл Ельскі (1831—1904), ураджэнец і гаспадар недалёкіх надпцічанскіх Дудзічаў (цяпер Пухавіцкі раён), родны брат вядомага краязнаўцы, публіцыста, перакладчыка Аляксандра Ельскага (1834—1916).

Міхаіл Ксавер Жыгімонт Ельскі — аўтар каля 100 музычных твораў: фантазій, паланезаў, мазурак, мініяцюр. Яго талент пачаў фарміравацца ў Дудзічах пад уплывам бацькі — Караля Ельскага, скрыпача і кампазітара, якіператварыў свой маёнтак Дудзічы ў "сядзібу муз". Дудзічы, Мінск, Вільня, Парыж, Дрэздэн, Мюнхен — вось адрасы музычнай адукацыі Міхаіла Ельскага. Бліскучыя выступленні ў Берліне, Варшаве, Вроцлаве, Кракаве, Дармштаце, Франкфурце-на-Майне, у Францыі... У еўрапейскіх газетах адзначаліся "надзвычайная бегласць, зграбнасць музычнай фразіроўкі, глыбокае музычнае пачуццё, упэўненасць і чысціня інтанацыі" музыканта. Міхаіл Ельскі па духу быў рамантыкам. Гэта праяўлялася і ў ягоных музычных творах. З 1870 года Ельскі стала жыве ў Дудзічах. Разам са сваёй пляменніцай Аляксандрай (дачкой брата Аляксандра Ельскага, якая была замужам за вядомым польскім археолагам і этнографам Зыгмунтам Глогерам) збірае народныя мелодыі мінскіх ваколіц і афармляе іх у працу "Народныя танцы Мінскай губерні" (захоўваецца ў Варшаве), друкуе ў часопісах артыкулы пра знакамітых кампазітараў і выканаўцаў. Пасля смерці Міхаіла Ельскага ягоныя творы амаль стагоддзе былі забытыя і толькі нядаўна намаганнямі аб'яднання "Беларуская капэла" (кіраўнік — Віктар Скорабагатаў) імя і творы гэтага кампазітара вяртаюцца з забыцця.

Міхаіл Ельскі быў у шлюбе з Клацільдай Манюшка, сваячкай вядомага кампазітара Станіслава Манюшкі. Іх адзіная дачка Соф'я Ельская выйшла замуж за Януша Уняхоўскага, якому лёс перадвызначыў стаць апошнім гаспадаром Русінавіч. Відаць, шлюб дачкі і абумовіў тое, што Міхаіл Ельскі пахаваны не ў родных яму Дудзічах побач са сваімі роднымі, а ў Русінавічах — маёнтку ягонага зяця. З жалем прыходзіцца канстатаваць, што магіла такога славутага чалавека не захавалася.

Ад воданапорнай вежы праз парк вяртаемся назад да сядзібы гаспадаркі "Русінавічы", месца, дзе стаяў галоўны дом маёнтка. Звяртаем увагу на "жывую альтанку" — пасаджаныя кольцам дрэвы. Побач, каля помніка на брацкай магіле, аддаем даніну памяці воінам, якія загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Мабыць, такім жа шляхам, якім мы вярталіся назад да сядзібы з боку Атоліна, набліжаўся да Русінавіч у 1708 годзе разам са сваім абозам шведскі кароль Карл XII, які змагаўся тады на тэрыторыі Рэчы Паспалітай з расійскім царом Пятром І. Пра сустрэчу і побыт Карла XII у Русінавічах са слоў сваёй прабабкі паведамляе ва ўспамінах той самы Фадзей Булгарын.

Вось такія цікавыя гісторыі адбываліся ў гэтым, сёння даволі сціплым куточку беларускай зямлі.

**СПАДЧЫНА**





Унікальны помнік архітэктуры — пяцігаловая ратуша XVIII стагоддзя доўгія гады ўпрыгожвае гарадскую плошчу Чачэрска. Падобных драўляных пабудоў у Беларусі няма. Узведзена ратуша па загаду імператрыцы Кацярыны І у гонар яе наведвання Чачэрска. Цяпер ратуша патрабуе рэстаўрацыі, яе вядуць спецыялісты гомельскага прадпрыемства "Будаўнік".

НА ЗДЫМКАХ: будаўнікі-аддзелачнікі Віктар ТРАЦІННІКАЎ, брыгадзір Андрэй ВАЛАВІКОЎ, Сяргей ЖУРКОЎ і Аляксандр ПЕРАКЛАДАЎ; ратуша ў Чачэрску.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.**

**КІРМАШ У ТРАЕЦКІМ**







У Траецкім прадмесці Мінска прайшло свята н
Нясвіжскага раёна "Кірмаш". Сваё майстэрства дз
хі і ганчары, рэзчыкі па дрэву і майстры саломап
ларускія цымбалы і гармонік, вясёлыя частушкі, за
роднага краю.

**РЭХА 30-х ГАДОЎ**

# «ВАМІ ЦЯГ
# ЧЫ

**16.VIII.38 г.**

Дзень добры дарагія і любыя мае Анечка, Лорачка і Лялечка! Вялікі дзякуй за пасылку. Учора яе атрымаў. Не ведаю, як і дзякаваць за яе. Вельмі ўжо дарэчы мыла. Бо ў мяне, што было, укралі, і я без мыла быў больш за паўмесяца. Любыя мае, не трэба такіх раскошных пасылак. Лепш скрамней. Я здаровы. Анечка, не хвалюйся і тэлеграмы не шлі. Адказаць тэлеграмай я не магу: і грошай няма, і гэта цяжка. Учора атрымаў тваю другую тэлеграму. З наступнай пасылкай, будзь ласкава, пашлі вазеліну, гліцэрыну, зубную шчотку, піўных дражджэй, фіціну, пілярыну. Пішыце. Я ад Вас не атрымаў яшчэ ніводнага пісьма. Бывайце здаровы. Моцна цалую Вас. Ваш татачка Адам. Выбачайце за няскладнае пісьмо.

**17.VIII.38 г.**

Дзень добры, дарагія і любыя мае, Анечка, Лорачка і Лялечка! Быў я ў доктара наконт адхарквання з кроўю. Аказваецца, сур'ёзнага нічога няма. Гэта часовая з'ява і хутка пройдзе. Любыя мае, не хвалюйцеся. Адчуваю я сябе добра. Спадзяюся, што хутка ўсе мае недамаганні пройдуць. Я ўжо пісаў, што пасылку атрымаў. Вялікае Вам дзякуй за яе. Вельмі ўжо раскошная яна. Лепей скрамней, любыя. Глядзіце сябе. Анечка, я хацеў бы падарунак зрабіць дзецям за выдатную вучобу і прасіў бы цябе той кавалак сукна, які ты купіла мне на касцюм, скарыстаць для дзяцей. Пашый касцюм Лорачцы, яна ж ужо вялікая, а Лялечцы купі ад майго імя таксама касцюмчык. Любыя мае, вучыцеся, старайцеся, будзьце выдатніцамі, як летась. У гэтым мая радасць і маё шчасце. Бывайце

зд...овыя.
Адам.

**19.VIII.38**
Дзень до
Анечка, Ло
Пішу ўж
атрымаў п
Вам пра с
Вам вялікае
чуваю я с
мае ўжо
лёгкіх маіх
Кровахарк
магчыма а
вось яшчэ
ных дражд
ваць насту
піўных дра
гліцэрыну,
б рыбінаг
прадуктаў
цукру — гэ
выцяжка з
вельмі тут
хвалюйцес
бадзёра.
атрымаў н
ровы. Моц
татачка Ад

**25.VIII.38**
Дзень до
Анечка, Ло
часу ад Вас
га ліста. Не
думаю, каб
Вы? Ці зда
атрымалі Вы
3, як атры
Пакрысе
дзяць. Кро

Працяг.
Пачатак у №№ 38—39, 42.



БелТА.

...одных майстроў ...анстравалі ткачы... ...цення. Гучалі бе... ...ушэўныя мелодыі

АСОБА

# ПРЫЦЯГАЛЬНЫ ТАЛЕНТ ВІКТАРА ЖАКА

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

Шчасця і радасці чалавеку ў жыцці заўсёды нестае. Мала іх бывае. Не хапіла мне шчасця і радасці ад знаёмства, ад размоў з Віктарам Жакам. Шкадуючы, што не стала чалавека, асобы, я па-дурному, прымітыўна-эгаістычна шкадую сябе, што лішні раз не пазваніў, не наведаўся, не запрасіў да размовы, да агульных адкрыццяў. Адчуваю: з яго, Віктара Жака, адыходам проста бяднейшым стаў.

...У паэта, які сёння прыналежны ўжо, відаць, усяму свету, у Андрэя Вазнясенскага ёсць нямала беларускіх вершаў.

Я бяру цябе на парукі
перад сіламі жыцця і зла,
перад вокам спрагнелым
разлукі,
што глядзіць, як імгла,
з вугла.

Я бяру цябе на парукі
як нявольніцу сумятні.
Ты — дзялянка, дзе клоны
рухнулі,
ты мне крыкнула: абарані!

Змоўкнуць недзе сябры,
завірухі.
Каб успыхнула ўсё — ліні,
белавежскаю чаркай сівухі
пачастуй галаўні у агні.

Запаліце тугу ў маім доме!
Хай мінулае як на духу.
Усё гары сінім полымем
стомленым
акрамя —
запаліце тугу!

*(Пераклад Рыгора Барадуліна).*

Ці не галоўная з прычын частага звароту А. Вазнясенскага да беларускай, скажам так, тэмы — сяброўства паэта з чытачом. Сяброўства з Віктарам Жакам. Дзесяцігоддзі сяброўства. Такі вось Віктар чалавек. Адкрыўшы нешта выключнае, ён пасля жыў захопленасцю гэтым выключным. Паэзія і жыццё, тэатр і жыццё, мастацтва і жыццё зліваліся, знітоўваліся, паядноўваліся ў бясконцую суцэльнасць. І ўжо Вазнясенскі, аднойчы прыехаўшы ў Мінск па запрашэнню Віктара Жака да студэнтаў політэхнічнага інстытута, не ведаў іншага, болей шчаслівага для ўцёкаў прытулку, як Беларусь, як Белавежская пушча, як возера Свіцязь, як проста гасціннасць беларускага сябра. Як гасціннасць тых, хто поруч з Віктарам, хто блізкі да яго. Беларусь Андрэя Вазнесенскага — гэта і Яўген Будзінас (пісьменнік, якому да ўсяго і ўсіх ёсць справа, пісьменнік, які не хаваецца ў шкарлупіне), і рэжысёр Барыс Луцэнка, і вечны калгасны старшыня Уладзімір Бядуля, і Васіль Быкаў, і Рыгор Барадулін...

Ні праўды на зямлі няма,
ні ў небе.
А ён шукае праўду
пад зямлёй.
Арэ глыбока, давярае
глебе
і чуе, як нялёгка,
роднай, ёй!

Яго і славасловілі, і крылі.
Ды пошукам —
не да шуміх.
Ён не бядуе —
на падземных крылах
імчыць Бядуля —
лётае мужык.
Сакавікі ўсе ў ліпені рванулі.
Ці гэта гіз кароў праняў,
Бядуля?

*(Пераклад Рыгора Барадуліна).*

Фактычна беларускія вершы Андрэя Вазнясенскага можна было б сабраць у адну кнігу, у адзін паэтычны зборнік. Некаторай спробай зрабіць гэта можна лічыць кнігу "Свіцязянскі вянок". У яе — тры аўтары: Адам Міцкевіч, Рыгор Барадулін, Андрэй Вазнясенскі (з вершамі па-руску і іх перакладам на беларускую мову). Кніга выйшла ў свет у год 200-годдзя Адама Міцкевіча. У 1998 годзе. Замест прэзентацыі тады ж, 5 чэрвеня, наладзілі паэтычнае свята на беразе Свіцязі. Віктар Жак запрасіў Андрэя Вазнясенскага. Па дарозе з аднаго замежжа ў другое паэт і прыехаў. Прыехалі на Свіцязь і беларускія паэты, пісьменнікі. Лічы, у большасці сваёй усе сябры Віктара Жака, усе яго добрыя знаёмыя. Вазнясенскі двойчы за адну раніцу абышоў Свіцязь. Ісці, мусіць, штораз болей за гадзіну. І хаця прыехаў з аэрапорта "Мінск-2" у самую ноч (гадзіны ў дзве з паловай), ужо да дзевяці, а то і раней паспеў ажыццявіць першую прагулку. З таго паходу прынёс і вершаваныя радкі. Пасля ўжо, надвячоркам, чытаў іх усім, каго прывяло на Свіцязь жаданне сустрэцца з Вазнясенскім. А я памятаю, якой радасцю свяціліся вочы Віктара Жака, свяціліся радасцю, што ў Вазнясенскага з'явіліся новыя радкі пра Беларусь, пра Свіцязь. У дадатак да тых, ранейшых...

І сам я тут жыву для козыра.
На водгук сэрца
разрываецца, —
дубовы ліст прыпаў
да возера
напамінаннем
Страдывирыуса.

*(Пераклад Рыгора Барадуліна).*

Незадоўга перад смерцю Жака запрасілі на работу ў Саюз пісьменнікаў. Яго, педагога, выкладчыка політэхнічнай акадэміі. І адразу — на пасаду намесніка старшыні Саюза пісьменнікаў. Жака, які нават не быў членам пісьменніцкай арганізацыі. Многіх, трэба сказаць праўду, гэта здзівіла. А Жаку даручылі ці не самае складанае для людзей творчых — арганізацыйную працу. Работу па вяртанню грамадскага і сацыяльнага статуса пісьменніка, пісьменніцкай арганізацыі. А мяне ўзрадавала (хто ведаў, што Віктар Герасімавіч — цяжка хворы, што знаходзіцца на парозе развітання з намі...), бо лічыў, быў пераканаsuccessfully, што чалавек, які гатовы безаглядна працаваць для іншых, здольны зрабіць многа.

Гняздо — каронай
над бярозаю.
Над хутарам
счарнелым стылі
з бусліхай бусел,
нібы ў роздуме,
бяздумна-сумна
й артыстычна.

Гняздо над заглушшу
прышпілена,
як указанне Віфлеема,
Дзве шыі сподычу
знясілены.
Так дзве змяі
над чашай ззвілены
у медыцынскую эмблему.

Забіла забыццё ўладарна
гняздоўе ўнізе
гаспадарскае.
Зруб згніў.
Без працы бусел госціць.
Як адарыць мілосцю
здарыцца,
дык трэба адарыць —
кагосьці.

*(Пераклад Рыгора Барадуліна).*

Гэтыя радкі — ізноў з верша Андрэя Вазнясенскага. З верша "Буслы", які паэт і прысвяціў Віктару Жаку.

Мне здаецца, што ў грамадства, у людзей можа быць і такі падзел — на сумных і вясёлых. Канешне ж, ён быў вясёлым, як па сённяшнім часе, незямным зусім чалавекам, здольным радавацца багатаму, шчодраму і ўсё ж такі светламу жыццю.

# ...ЕР Я ЖЫВУ БОЛЬШ, ...ЫМ САМІМ САБОЮ»

## ЛАГЕРНЫЯ ПІСЬМЫ АДАМА БАБАРЭКі

...а цалую Вас. Ваш

...ы, дарагія і любыя мае ...ка і Лялечка!
...трэцюю паштоўку, як ...ылку, каб паведаміць ... здароўе і выказаць ...зякуй за пасылку. Ад... добра. Недамаганні ...аюць памаленьку. У ...нога сур'ёзнага няма. ...е змяншаецца, гэта ...прастуды. Фурункулы ...праходзяць. Няма піў...й. Калі будзеце гата...ю пасылку, прышліце ...жэй, фіціну, вазеліну, ...і можна, добра было ...тлушчу, піларыну. З ... вобмаль тлушчаў ды ...асноўнае. Часнок (або ...о — алілсат) таксама ...рэбны. Любыя мае, не ...а мяне. Пераношу ўсё ... вас ліста яшчэ не ...днага. Бывайце зда... ...моцна цалую Вас. Ваш

...ы, дарагія і любыя мае ...ка і Лялечка! Да гэтага ... атрымаў яшчэ ніводна... ...даю, у чым справа. Не ...ы не пісалі. Ці здаровы ...вы Ігнась і мама? Ці ...ае паштоўкі (іх я напісаў ...ў пасылку)? Я здароў. ...амаганні мае прахо... ...арканне спынілася. Гэта была часовая з'ява. Лёгкія зусім у парадку. Рукі таксама папраўляюцца. Ужо не баляць, як раней. Вось яшчэ толькі з твару не пазыходзілі прышчы ды фурункулы. Спадзяюся, што хутка і гэта пройдзе. Працую на агульных работах. Адчуваю сябе добра. Нормы выконваю. Спадзяюся, як скончым будаўніцтва дарогі, быць дома. Выбачайце за нязграбнасць лістоў. Няма часу, і нязручна без стала пісаць. Адказу на заяву аб пабачэнні з табою, Анечка, да гэтага часу няма. Прыйдзецца чакаць да наступнага лета. Бывайце здаровы. Цалую Вас моцна-моцна. Ваш татачка Адам.

**1.IX.1938 г.**

Дзень добры, дарагія і любыя мае Анечка, Лорачка і Лялечка! Каторы ўжо ліст пішу Вам, ад Вас не атрымаў яшчэ ніводнага. Не ведаю, што за прычына затрымкі вашых пісем. Не думаю, што Вы да гэтага часу ніводнага не напісалі. Я пісаў Вам даволі многа, але не ведаю, што Вы атрымалі ў жніўні м[еся]цы. Я ўжо паведамляў, што пасылку атрымаў, атрымаў таксама і абедзве тэлеграмы, а вось з 15 жніўня ад Вас няма ніякіх вестак. Вельмі шкада, што нам у гэтым годзе не ўдалося ўбачыцца, Анечка. Цяпер у Вас пачынаецца навучальны год, і, вядома, да лета нам ужо не ўдасца пабачыцца. Любыя Лорачка і Лялечка, віншуючы Вас з пачаткам новага навучальнага года, я хачу выказаць адно адзінае сваё пажаданне Вам — гэта вучыцца таксама выдатна, як вы вучыліся і мінулыя гады. Ведайце, любяняткі, што Ваша выдатная вучоба — гэта адзіная радасць і шчасце Вашага татулькі. Жадаю Вам для выдатнай вучобы выдатнага здароўя, гэтага грунту і духоўнага здароўя. Слухайцеся маму, дапамагайце ёй і старанна працуйце над сабою, над сваёй адукацыяй. Аб усіх сваіх поспехах дзяліцеся са мною ў лістах. Пішыце і пра цяжкасці, якія сустрэнуцца на вашым вучнёўскім шляху. Можа быць і я адсюль, здалёку, змагу Вам чым-небудзь дапамагчы. Вучыцеся пераадольваць цяжкасці самі. Прабачце, любыя, за нязграбнасць і няскладнасць маіх лістоў. Спадзяюся з часам напісаць Вам добры ліст. Я здаровы, кажучы наогул. Сёння крыху павышаная тэмпература. Быў у доктара. На заўтра атрымаў вызваленне ад работы. Грып. Спадзяюся, пройдзе. Анечка, я прасіў яшчэ ў ліпеньскіх лістах дастаць мне скураныя простыя боты. Калі гэта табе ўдасца, буду вельмі ўдзячны. З прадуктаў у мяне яшчэ засталося адзін кавалачак сала ды 1 кілаграм цукру. Астатняе, як бачыш, я ўсё ўжо з'еў. Вялікае дзякуй. Пасылка вельмі дапамагла мне. У мяне праходзяць ужо фурункулы. Калі будзеш рыхтаваць, Анечка, другую, то галоўным чынам пасылай тлушч, цыбулю, часнок, цукар, сушаныя яблыкі (кіслыя). Увогуле добра было б, калі б ты прыслала ці лімоннай кіслаты, ці журавіннага экстракту. У гэтым я адчуваю вострую патрэбу. Астатняе на свой погляд і ў невялікай колькасці.

Будзьце здаровы. Моцна, моцна цалую Вас, Анечка, Лорачка і Лялечка.

Ваш татачка Адам.

ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ

# «ПРЫХОДЗЬЦЕ, ДЗЯДЫ-РАДЗІЦЕЛІ...»

На могілках, дзе жухлая трава,
З журбінай мёртвых сёння
памянём,
Сыпучая магільная жарства
Сагрэта чуйнай памяці агнём.

**М. МЯТЛІЦКІ.**

Святкаванне Дзядоў, старажытнага памінальнага абраду, звязана з надзвычай распаўсюджаным на Беларусі культам продкаў — шанаваннем памёршых бацькоў і ўсіх родзічаў (дарэчы, сам тэрмін "дзяды" мае значэнне "продкі"). На працягу года свята Дзяды адзначалася неаднаразова — гэта і Радаўніца, і траецкія Дзяды, і пятроўскія, і, нарэшце, восеньскія, або вялікія, змітраўскія Дзяды, якія спраўляліся ў розных мясцовасцях Беларусі ў перыяд з 26 кастрычніка па 2 лістапада.

З самай раніцы гэты дзень пачынаўся падрыхтоўкай да свята: мужчыны вымяталі двор, прыводзілі ў належны выгляд усе пабудовы, жанчыны ў гэты час наводзілі чысціню ў доме, гатавалі розныя стравы. "Чысціня спрыяе прыходу духаў дзядоў, смачныя стравы і пітво схіляюць іх да знікнення на хвіліну з нябеснай абіцелі, каб спусціцца на родную зямлю", — казалі людзі. Абавязковай для ўсіх членаў сям'і была і лазня, і чыстая святочная вопратка. "Вечарам уся сям'я збіралася вакол святочнага стала. Перад тым як садзіцца, у хаце адчынялі ўсе дзверы, каб заходзілі памерлыя продкі, што раней тут жылі. Абрадам кіраваў гаспадар — старэйшы член сям'і, які перш за ўсё запальваў вялікую свечку, што ставілася ў посуд з якім-небудзь зернем як сімвал памяці аб продках. Пасля агульнай малітвы пералічваліся ўголас пайменна ўсе дзяды — продкі, якіх запрашалі на агульную вячэру. Гаспадар пры гэтым гаварыў: "Святыя дзяды! Прыйдзіце сюды, гэта — для вас!".

Колькасць страў на стале магла быць рознай, але не менш пяці і толькі няцотнай. Абавязковымі былі куцця (рытуальная каша з ячменных круп), клёцкі, бліны, мяса, яечня, да таго ж стараліся не забыцца прыгатаваць тыя стравы, што найбольш любілі памёрлыя. Перад каштаваннем кожнай стравы гаварылі: "Памяні, Божухна, нашых святых дзядоў! Пашлі ім рай праветлы, царства нябеснае! Няхай яны са святымі адпачываюць, а нам хлеб-соль пасылаюць!"



Паводле звычаю, ад кожнай стравы ў асобны посуд — у так званую "дзедаўскую міску" — адкладвалі па кавалачку для нябожчыкаў. Звычайна гэтую ежу пасля вячэры аддавалі жабракам: яны ўсведамляліся як пасрэднікі паміж "гэтым" і "тым" светам.

За сталом гаварылі толькі аб дзядах — аб іх жыцці, добрых учынках, мудрых парадах і настаўленнях. "Пачыналася гэтая размова з расказа пра самага старэйшага і найбольш вядомага продка, а заканчвалася ўспамінамі аб памёршых зусім нядаўна. Пасля заканчэння вячэры ўсе павінны былі адначасова ўстаць з-за стала, а гаспадар зноў звяртаўся да дзядоў, як бы развітваючыся з імі: "Святыя дзяды! Елі і пілі, ідзіце да сябе!" Стол, за якім вячэрала сям'я, пакідаўся непрыбраным на ўсю ноч, толькі накрываўся абрусам... На другі дзень раніцай усе члены сям'і зноў садзіліся за стол і даядалі тое, што засталося ад святочнай вячэры, але ўжо без адпаведных абрадавых дзеянняў".

Паводле Закона Рэспублікі Беларусь аб святочных днях ад 19.12.1991 Дзень памяці адзначаецца 2 лістапада. Кожны год, пачынаючы з 1987, у Дзень памяці ў Курапатах праводзіцца мітынг-рэквіем "Дзяды" — ушанаванне памяці ахвяр палітычных рэпрэсій.

**Падрыхтавала Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
**Фота Сяргея БРУШКО.**

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# ЦЯБЕ Я ПАЧУЮ ЗА ТЫСЯЧЫ ВЁРСТ...

**Пасля зімовай сесіі лепшыя студэнты хімічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта пачнуць атрымліваць дабрачынную стыпендыю імя Кацярыны Карпенкі — даваеннай студэнткі гэтага факультэта, якая жыве ў ЗША. Пра гэта паклапаціўся яе сын Вадзім Карпенка.**



*Кацярына КАРПЕНКА.*

...Напярэдадні вайны трынаццацігадовы Вадзім жыў у бацькоў сваёй стрыечнай сястры Марыйкі ў пасёлку Пашкава-1, што пад Магілёвам. Марыйка была на тры гады маладзейшая за Вадзіма. Яе бацька — Сцяпан Гураў — у той перадваенны год працаваў у вайсковай часці намеснікам начальніка курсаў па ўдасканаленні каманднага саставу. Пляменніка Вадзіма, які скончыў у іх пасёлку чарговы навучальны год, адправілі на службовай машыне ў Мінск да маці Кацярыны Карпенкі. Пераведацца. Але ж ні Марыйка, ні Вадзім не ведалі, што наступная іх сустрэча адбудзецца толькі праз пяцьдзесят гадоў. А сцэнарый іх жыцця зменіць вайна.

Марыйцы давялося жыць у Чэлябінску, куды іх эвакуіравалі. Разам са сваімі аднагодкамі, такімі ж гаротнымі дзецьмі, працавала на ваенным заводзе.

...Вадзіма разам з маці Кацярынай Леанідаўнай вайна закінула зусім у процілеглы бок. Далёка на захад. Яны трапілі ў Германію, дзе працавалі ў рабочым лагеры. Пасля вызвалення амерыканскімі войскамі па закону аб уцекачах эмігрыравалі ў ЗША. У Амерыцы Вадзім Карпенка скончыў два універсітэты. Доўгі час працаваў у карпарацыях ваенна-касмічнай прамысловасці. Цяпер у адстаўцы. Яго маці, Кацярына Леанідаўна, якая скончыла да вайны хімічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, уладкавалася на службу ў фінансавую карпарацыю. Але напачатку разам з сынам зараблялі на кавалак хлеба на цытрусавых плантацыях... Працавала бездакорна, але падлягала звальненню першай: беларускі акцэнт не дужа падабаўся.



*Родныя Карпенкаў, якія засталіся на Беларусі (злева направа): Валянціна ІВАШКЕВІЧ, Марыя і Сцяпан ГУРАВЫ, Марыя ГУРАВА — стрыечная сястра Вадзіма Аляксеевічаа. Мінск, 1967.*

Пасля вайны родныя доўга шукалі адзін аднаго. Сястра Марыя Сцяпанаўна пісала запыты ў розныя інстанцыі з Беларусі, а брат, Вадзім Аляксеевіч, вёў пошук з далёкай Амерыкі. Выніку не было. І толькі аднойчы — амаль праз 50 гадоў! — Вадзім Аляксеевіч праз свайго сябра з Ленінграда перадаў запыт на паштовае аддзяленне вёскі Брадзец Бярэзінскага раёна, дзе нарадзілася яго маці. І адтуль атрымаў доўгачаканы адказ. Вадзім Аляксеевіч даведаўся, што адна з яго стрыечных сясцёр жыве ў Шчучыне, а другая — у Мінску. Атрымаў вестку і пра тое, што яго-ныя бацька і дзед, якіх рэпрэсіравалі ў 30-я гады, рэабілітаваны. Пасмяротна. (Дзед быў святаром, а бацька — мастаком, калегам знакамітага Заіра Азгура).

У адным са сваіх нядаўніх лістоў на Беларусь Вадзім Карпенка піша: "Відавочна, што пасля арышту майго бацькі маці трэба было набываць прафесію, і яна ў свае трыццаць гадоў — на дзесяць старэйшая за аднакурснікаў — абрала цяжкі шлях набыцця адукацыі. Ёй давялося несці дзве горкія пячаткі — жонка "ворага народа" і дачка сацыяльна небяспечнага элемента... Ёй было цяжка, але яна не скарылася лёсу. Магчыма, і мне ў спадчыну засталася яе настойлівасць, якая вельмі спатрэбілася ў Амерыцы..."



*Вадзім КАРПЕНКА.*

— На пачатку 90-х гадоў цётка Каця прыязджала да нас у Мінск, — успамінае Марыя Сцяпанаўна. — Калі яна пасля доўгага расстання ўбачыла мяне ў аэрапорце, не вытрымала — узрушана закрычала: "Гляньце, гэта ж мая пляменніца, а я ж яе маленькую насіла на руках!" Мы пацалаваліся і расплакаліся...

І Вадзіма яна пазнала адразу, хоць і не бачыла паўстагоддзя. Вадзім Аляксеевіч некалькі разоў прыязджаў у Мінск. Прыязджаў з радасцю, прымаючы блізка да сэрца праблемы Беларусі. Не так даўно яны з маці вырашылі дапамагчы найбольш вартым прыхільнікам навукі. На хімічным факультэце, дзе да вайны вучылася Кацярына Леанідаўна, ствараецца фонд Кацярыны Карпенкі. Гэта дасць добрую перспектыву заахвоціць лепшых студэнтаў, аспірантаў і выкладчыкаў. Мяркуецца, што аналагічную падтрымку атрымаюць на факультэце прыкладной матэматыкі і інфарматыкі Белдзяржуніверсітэта.

Ужо распрацавана адпаведнае палажэнне аб дабрачыннай стыпендыі і падпісаны загад аб стварэнні фонду Кацярыны Карпенкі. У фонду ёсць і свая эмблема...

— Актыўна перапісваемся з Вадзімам Карпенкам, — расказвае дэкан хімічнага факультэта, прафесар Генадзь Браніцкі. — А гэтым летам я пабываў у Лос-Анджэлесе ў гасцях у нашага земляка. Як і ўяўляў, Вадзім Аляксеевіч — адукаваны і шчыры чалавек, які дужа хварэе за лёс роднай Беларусі. Будзем вельмі ўсцешаны, калі ў нашым універсітэце запрацуе фонд Карпенкаў. Мы ўжо на парозе прыемнай падзеі. З удзячнасцю ўспрымаю гэтае высакароднае памкненне душы суайчыннікаў.

— Даведаўшыся аб рашэнні Вадзіма і цёткі Каці, я напісала ім у далёкую Амерыку, што ганаруся імі, — сказала падчас нашай размовы Марыя Сцяпанаўна і дадала: — А ўвогуле нічога звышвыключнага ў гэтым я не бачу. Мусіць таму, што беларусы — самыя душэўныя і добрыя людзі на свеце.

Гэта ўласціва і самой Марыі Сцяпанаўне, і яе родным. Такім жа добрым і шчырым быў і яе бацька — адзін з абаронцаў Брэсцкай крэпасці. Ён перажыў і цяжкія раненні, і горыч варожага палону, але не страціў любові да Айчыны. Як і яго родныя за акіянам, што праз паўстагоддзя — за тысячы вёрст! — пачулі голас роднай зямлі.

**Святлана ХОРСУН.**

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

# РЭЛІГІЙНА-ЦАРКОЎНАЕ ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

● **Ларыса ЯЗЫКОВІЧ**, *кандыдат гістарычных навук.*

Пры ёй захоўваюцца архівы беларускіх пісьменнікаў, палітычных і рэлігійных дзеячаў на эміграцыі, у прыватнасці, архіў Ч. Сіповіча. Пры бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лондане паступова склаўся невялікі беларускі музей, у якім захоўваюцца гістарычныя, мастацкія, этнаграфічныя каштоўнасці беларусаў — старажытныя манеты, геаграфічныя карты, настольнікі, ганчарныя вырабы, гравюры, абразы, паштоўкі, творы беларускіх мастакоў і г. д. З беларускай бібліятэкай і музеем у Лондане супрацоўнічае Англа-беларускае навуковае таварыства ў Вялікабрытаніі, а таксама Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі. А. Надсон быў адным з першых, хто адгукнуўся на чарнобыльскую трагедыю ў Беларусі. У 1989 годзе ў Вялікабрытаніі быў створаны Беларускі камітэт дапамогі ахвярам радыяцыі, старшынёй якога быў абраны айцец Надсон. У выніку працы камітэта на Беларусь дастаўлены некалькі транспартаў з лекамі, вітамінамі, медыцынскім абсталяваннем.

У наш час у ЗША дзейнічае беларуская каталіцка-уніяцкая парафія ў Чыкага. Былі намаганні стварыць беларускую каталіцкую парафію ў Нью-Йорку, але безвынікова. У першыя гады пасля заканчэння другой сусветнай вайны напачатку ў Германіі, а потым у іншых краінах Еўропы, у ЗША, Канадзе з'явіліся рэлігійна-грамадскія арганізацыі, аб'яднанні беларускіх эмігрантаў. У іх ліку Беларускае праваслаўнае аб'яднанне (1946 год), Жыровіцкае праваслаўнае брацтва (1948), Аб'яднанне праваслаўных беларусаў у ЗША (1950), Беларуска-амерыканскае каталіцкае таварыства (1950), Беларускае акадэмічнае каталіцкае аб'яднанне "Рунь" (1949) і іншыя. У 1960-я гады на эміграцыі існавала Беларуская стара-каталіцкая субажня — рэлігійная арганізацыя пратэстанцкага кірунку, якую ўзначальвалі І. Рыжы-Рыскі, В. Матэйчык, Л. Галубовіч. Дзейнічала ў ЗША, Канадзе, Германіі, Бразіліі і Аргенціне. Зараз засталіся суполкі ў Паўднёвай Амерыцы. Сярод беларускіх эмігрантаў была пэўная колькасць веруючых — пратэстантаў — у асноўным баптыстаў. У першыя пасляваенныя гады яны актыўна дзейнічалі ў Германіі ў лагерах для так званых перамешчаных асоб. Так, у 1946 годзе ў Ватэнштэце быў выдадзены на беларускай мове Евангельскі хрысціянскі спеўнік, які падрыхтавала евангельская хрысціянская сябрына ў Ватэнштэце. Былі намаганні выдаваць беларускія часопісы пратэстанцкага накірунку. У тым жа Ватэнштэце ў 1946 годзе выйшаў першы нумар часопіса "Хрысціянскі светач. Голас сябрыны беларускіх метадыстаў за мяжою". Далейшых звестак пра гэтае выданне няма. У аўстрыйскім горадзе Лінцы дзейнічаў беларускі пастар-пратэстант Ян Пятроўскі, які потым працягваў сваю дзейнасць у ЗША. У 1947 годзе ў Штутгарце беларус Данііл Ясько рэдагаваў часопіс "Паведамленні Камітэта славянскага саюзу евангельскіх цэркваў". На чатырох мовах — беларускай, рускай, украінскай і польскай выйшлі два нумары гэтага часопіса. У далейшым часопіс спыніў сваё існаванне, таму што Д. Ясько выехаў на сталае жыццё ў Канаду. Там ён падрыхтаваў і выдаў на беларускай мове спеўнік "Хрысціянскія гімны", у які ўвайшлі 604 рэлігійныя гімны — пераклады з нямецкай і англійскай моў. У 1970-я гады на эміграцыі выдаваўся на беларускай мове "Веснік беларускага евангельска-баптысцкага брацтва ў ЗША і Канадзе". Выдавалі часопіс І. Панцэвіч і Д. Ясько. У 1973 годзе адбыўся першы беларускі евангельска-баптысцкі з'езд ЗША і Канады, на якім было створана беларускае евангельска-баптысцкае брацтва, галоўная дзейнасць якога праходзіць у штатах Каліфорнія і Пенсільванія. Беларускае евангельска-баптысцкае брацтва праводзіць актыўную дзейнасць у галіне выдавецтва, радыёвяшчання і адукацыі. З 1976 года яно вядзе беларускія радыёперадачы праз радыёстанцыі ў Сан-Францыска і Монтэ-Карла. У наш час у Таронта жыве і працуе беларускі пастар-пратэстант Ю. Рапецкі. Ён аўтар кнігі "Новае жыццё ў Хрысце" (1989, 1994). У 1990-я гады Ю. Рапецкі неаднаразова быў на Беларусі. У беларускім перыядычным друку змяшчаліся артыкулы пра Міхаіла Мельніка, беларуса-пратэстанта з Германіі, які трапіў у час вайны ў палон, пасля вызвалення застаўся ў ФРГ. Ён шчыра адгукнуўся на чарнобыльскую бяду, якая прыйшла на Беларусь. З дапамогай сваіх аднаверцаў з Германіі, а таксама міжнароднай хрысціянскай місіі "Біблія і мір" ён прывёз у 1989 і 1992 гадах у Мінск лекі, вітаміны, аднаразовыя шпрыцы, медыцынскае абсталяванне, неабходнае жыхарам раёнаў, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Рэлігійнае жыццё — вельмі важная частка духоўнага жыцця беларускай эміграцыі. Уздым рэлігійнай актыўнасці сярод беларускіх эмігрантаў назіраўся ў першыя пасляваенныя гады. Сталася так, што рэлігійнае жыццё беларускай праваслаўнай эміграцыі найбольш значна засяродзілася ў Злучаных Штатах Амерыкі, у той час як рэлігійнае жыццё беларускай каталіцкай эміграцыі найбольш сталым было ў краінах Заходняй Еўропы. З цягам часу гэтая актыўнасць ідзе на спад. Прычыны таму розныя. Па-першае, у 60-я — 70-я гады рэлігійнае жыццё беларускай эміграцыі ўвайшло ў нейкае больш-менш сталае рэчышча. Па-другое, тыя рэлігійныя дзеячы, беларускія святары, якія актыўна ўплывалі на духоўнае жыццё беларускіх эмігрантаў у першыя пасляваенныя гады, з цягам часу па стану здароўя, па ўзросту адышлі ад актыўнай рэлігійнай і грамадскай працы. Добрай замены ім амаль не знайшлося. Па-трэцяе, на эміграцыі працягваецца працэс асіміляцыі беларусаў, далучэння іх да іншых народаў, напрыклад, палякаў, рускіх, украінцаў, літоўцаў на падставе іх веравызнання альбо растварэнне з цягам часу сярод грамадзян краін пражывання. Дзеці эмігрантаў не заўсёды маюць патрэбу ў нацыянальным рэлігійным жыцці. На сучасны стан рэлігійнага жыцця беларускай эміграцыі адмоўны ўплыў аказваюць палітычныя супярэчнасці, якія існуюць да нашых дзён паміж рознымі плынямі, палітычнымі накірункамі, існуючымі сярод беларускай эміграцыі.

Вострым пытаннем для ўсіх беларускіх цэркваў на эміграцыі з'яўляецца недахоп духавенства, нежаданне беларускай моладзі выбіраць у жыцці святарскі шлях. У апошнія гады гэта пытанне часткова вырашаецца за кошт прытокаў беларускіх праваслаўных святароў з Беласточчыны, адкрыцця святарскіх курсаў пры Беларускай каталіцкай місіі ў Лондане. Адпаведная арганізацыя царкоўнага кіраўніцтва спрыяла б і надалей захаванню беларускай культуры сярод веруючых, захаванню прыходскай маёмасці (будынкаў, зямельных участкаў, друкарскага абсталявання і інш.) для наступных пакаленняў беларусаў на эміграцыі.

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 38—39—42.**

АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

— Згуртаванне беларускіх грамадскіх арганізацый у Літве выказвае вялікую падзяку за дапамогу, — з гэтымі словамі звярнуўся прэзідэнт згуртавання беларускіх арганізацый у Літве Л. Мурашка да старшыні Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей А. Білыка падчас сустрэчы ў камітэце. — Вельмі прыемна адчуваць, што ўрадавыя структуры нашай Бацькаўшчыны клапоцяцца аб сваіх суайчынніках за мяжой, і гэта можа зразумець і цалкам ацаніць толькі той, хто знаходзіцца ў такой сітуацыі, як мы. Гэтая дапамога асабліва патрэбная ў падтрымцы нашай беларускай школы ў Вільнюсе, беларускіх класаў у Вісагінасе і факультатыва ў Салечніках. Няма патрэбы тлумачыць, што школьная моладзь хутка павінна змяніць нас, старэйшых, у грамадскай працы, якая дагэтуль праводзіцца паспяхова і будзе пашырацца.

...У пачатку кастрычніка Мінск наведала дэлегацыя прадстаўнікоў беларускай дыяспары на чале з Лявонам Мурашкам. Яе прыезд арганізаваў Дзяржкамітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей. Госці сустрэліся з прэм'ер-міністрам Рэспублікі Беларусь С. Лінгам. Па выніках сустрэчы дадзены даручэнні ўрада адпаведным міністэрствам і ўстановам аб аказанні падтрымкі нашым суайчыннікам, у першую чаргу, Вільнюскай сярэдняй школе імя Ф. Скарыны, якой неабходна дапамагчы ў арганізацыі кабінетаў і забеспячэнні новай літаратурай. Тут яшчэ неабходна пабудаваць спартыўную залу. Дарэчы, мэрыя Мінска ўжо перадала ў школу, у якой сёння вучацца 173 вучні, мікрааўтобус і камп'ютэрны клас. Але гэта яшчэ далёка не ўсё. Па словах дырэктара школы Галіны Сівалавай, штогод колькасць дзяцей у школе будзе павялічвацца. Таму зразумелы клопат беларускіх аб'яднанняў у Літве, адміністрацыі школы і ўрада Беларусі пра належны ўзровень навучання, заснаваны на адпаведнай матэрыяльнай базе.

**Ніна ПЕТУХОВА.**



З БУДУЧАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ РЭПРЭСІРАВАНЫХ ЛІТАРАТАРАЎ

# «ЧАЛАВЕК — ГЭТА ВАМ НЕ МУМІЯ...»

***62 гады таму ў ноч з 28 па 29 кастрычніка 1937 года ў Беларусі бальшавікамі была праведзена беспрэцэдэнтная акцыя. На працягу гадзіны расстраляны 16 беларускіх пісьменнікаў і 5 дзяржаўных дзеячаў. Яшчэ і сёння мы не можам сказаць, што гэтыя лічбы канчатковыя.***

***Сёлета аднаму з ахвяр той ночы, расстралянаму ў 28 гадоў, паэту Валерыю МАРАКОВУ споўнілася б 90 гадоў.***



**Валерый МАРАКОЎ**

Паэт і перакладчык Валерый Маракоў нарадзіўся 27 сакавіка 1909 года. Першыя вершы В. Маракова з'явіліся ў друку ў 1925 годзе. У пачатку 1926 года В. Маракова прымаюць у літаратурнае аб'яднанне "Маладняк". Адначасова абіраюць членам рэдкалегіі літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса "Маладняк".

5 снежня 1926 года літаратурны дадатак да газеты "Савецкая Беларусь" — "Сталёвы ўзлёт" у кнігаспісе маладнякоўскіх твораў паведамляе аб выхадзе з друку першага паэтычнага зборніка 17-гадовага В. Маракова "Пялёсткі".

Але раней, да выхаду "Пялёсткаў", "В. Маракоў падрыхтаваў зборнік новых вершаў пад назвай "На залатым пакосе" (паведамленне ў раздзеле "Хроніка беларускае культуры" (Полымя. 1926. № 8.), які выйшаў з друку толькі праз год, восенню 1927 года.

На зборнікі Маракова амаль адразу пасля іх выхаду з'явілася больш дзесятка рэцэнзій. М. Гарэцкі пісаў: "Маракоў вызначаецца лірычнасцю, эмацыянальнай напружанасцю, гучальнасцю сваіх вершаў. У яго шмат пачуцця, ён любіць яскравыя фарбы і гучанне...".

"Маракова заўважыў і акрыліў бацькоўскай ласкай і прыхільнасцю Янка Купала. Народны паэт не раз запрашаў да сябе юнака на сваю кватэру і цешыўся яго першымі творчымі крокамі, даў паэту не адну сваю кнігу з цёплым і шчырым аўтографам" (С. Шушкевіч).

У канцы 1927 года аб'яднанне пісьменнікаў "Маладняк" і Наркамат асветы БССР накіравалі В. Маракова на вучобу ў Мінскі Белпедтэхнікум імя У. Ігнатоўскага, але пасля двух курсаў (у 1929 годзе) яго адазвалі з вучобы і прызначылі загадчыкам літаратурнага аддзела газеты "Савецкая Беларусь", дзе ён і працаваў з невялікім перапынкам да канца 1930 года.

"З Мінскага Белпедтэхнікума выйшла шмат маладое беларускае інтэлігенцыі, тае эліты, якая пазней станавіла галоўную турботу органаў НКВД і амаль уся была высланая ў канцлагеры", — пісаў Уладзімір Сядура (Глыбінны).

У ліпені 1929 года буйнейшы літаратурны часопіс "Маладняк" аддае большую частку сёмага нумара В. Маракову. (Тады ж паэт, нямала рызыкуючы, тайна прыязджае да А. Дудара ў ссылку ў Смаленск).

28 мая 1930 года В. Маракоў чытае свой новы верш "Янку Купалу" на вечары з нагоды 25-годдзя літаратурнай дзейнасці вялікага песняра.

З успамінаў Э. Агняцвет: "Хросным бацькам Валерыя Маракова быў Янка Купала. Помню цёплы, усхваляваны голас Маракова на Купалаўскім ушанаванні ў Доме асветы":

**За песні і думы**
**Мы любім паэтаў,**
**За кожнае слова,**
**За кожны радок,**
**Што нашым агнём**
**І трывогай сагрэты...**
**Купала,**
**Вам гэты вянок!**

("Янку Купалу").

Восенню 1930 года выйшла з друку кніга паэзіі В. Маракова "Вяршыні жаданняў".

У № 8 "Узвышша" (1930) змешчаны вялікі артыкул М. Лужаніна "Думкі пра паэзію Валерыя Маракова..."

Красавік 1931 — чэрвень 1934 гадоў — вучоба (адначасова з працай у часопісе "Чырвоная Беларусь" і іншых выданнях) у Мінскім Вышэйшым Белпедінстытуце.

Восенню 1933 года з другой спробы выйшаў з друку (ужо знявечаны цэнзарамі) зборнік вершаў В. Маракова "Права на зброю". Нягледзячы на "працу" цэнзараў, у зборніку ёсць і радкі, аб якіх "у свой час" успомняць у НКУС:

**Чалавек —**
**гэта вам не мумія, —**
**ўзяў са склепу**
**і выштурхнуў вон,**
**чалавек —**
**гэта сад**
**з залатымі думамі,**
**дзе па жылах праходзіць**
**блакітны агонь.**

("Рахунак паэта, пададзены да аплаты").

У студзені 1934 года ў "ЛіМе" з'явілася рэцэнзія М. Клімковіча "Пра кніжку В. Маракова "Права на зброю". Нават пасля працы цэнзараў над кнігай М. Клімковіч піша: "Некаторая частка вершаў носіць яскрава выражаны варожы характар нашай сапраўднасці... Асноўныя памылкі : прапаганда буржуазнай тэорыі надкласавасці мастацтва... Сцверджанне "права" паэта стаяць у баку ад практыкі сацыялістычнага будаўніцтва... Няправільнае, скажонае адлюстраванне нашай рэчаіснасці, няправільныя рэцэпты выпраўлення недахопаў... Пасіўная роля наглядальніка прыводзіць паэта да хворага песімізму..."

У пачатку 1935 года В. Маракоў паехаў у мястэчка Чарнеўка Барысаўскага раёна ў творчую камандзіроўку на лесараспрацоўкі і лесасплаў. У Барысаўскім раёне працаваў да 1 сакавіка 1935 года, а потым вярнуўся ў Мінск, дзе прыступіў да творчай працы над раманам "Вечная крыніца" і п'есай.

21 сакавіка. Першы арышт В. Маракова. Але 7 ліпеня справа В. Маракова была спынена, і ён быў выпушчаны з мінскай турмы НКУС.

6 лістапада 1936 года паэт быў зноў арыштаваны.

Пасля года катаванняў ужо знявечанага В. Маракова Выязная сесія ваеннай калегіі Вярхоўнага Суда СССР прыгаварыла да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу з канфіскацыяй усёй уласнай маёмасці. Прыгавор у сілу Пастановы ЦВК СССР ад 1 снежня 1934 года падлягаў неадкладнаму выкананню.

29 кастрычніка 1937 года В. Маракова расстралялі.

З успамінаў С. Грахоўскага: "Не магу ўявіць, у якога звера паднялася лапа, каб стрэліць у патыліцу аўтара "Босых на вогнішчы", "Спалоху на загонах", "Сцежак-дарожак", вершаў, якія ён, напэўна, вучыў на памяць у школе. Уяўляю, каб у гушчары пушчы сустрэўся галодны воўк з блакітнавокім, залатавалосым Валерыем Мараковым, у яго апусцілася б хіжая лапа, ён саступіў бы сцежку паэту, абароненаму аурай дабра і натхнення".

Рэабілітаваны Валерый Маракоў 10 верасня 1956 года.

**Леанід МАРАКОЎ.**

## «РАБІНАВАЯ НОЧ»

* * *

Над сінім лесам, шэрым полем
Задорны смех ліе вясна.
Такой парой па-над раздоллем
Душу я выпяю да дна.

Такой парой ў жыццёвым моры
Б'е радасць свежых галасоў.
Я выйду ў поле, на прасторы,
Абліты сонцам і расой.

Хай ў нівах льюцца яшчэ слёзы
Адцвіўшай ў холадзе зімы,
Ўжо кучаравяцца бярозы.
Няма ні холаду, ні цьмы.

І над узгоркам, над далінай
Вясна-красуня зацвіла.
Я прыгарну, нібы дзяўчыну,
Ўсю гэту шыр, ўсю гэту даль.

Я, сын вясны пад яркім светам,
Люблю жыцця прастор і шыр,
Затым, што сонца б'е паэту
Паклоны новых слоў душы,

Затым, што ў даль над шэрым полем
Задорны смех ліе вясна...
Такой парой па-над раздоллем
Душу я выпяю да дна!

*1926 г.*

### МАЦІ

Прыйшла ў далёкі дом, пачула спеў гітары,
І раптам нейкая ўлілася ў грудзі боль.
Над хмурым горадам паўзлі густыя хмары,
І чорны дзень быў здушаны жальбой.

Яшчэ нядаўна так жадала дзён вясновых
І жыць агнём пачуццяў і надзей,
Як раптам вестка, — сын яе ахвярай новай
Стаў, родны сын загінуў ад людзей.

Яна так плакала, яна ў агні згарала,
Малілася прад Богам і людзьмі.
І рай, шчаслівы рай яна яму жадала,
Слязьмі й журбой грахі яго абмыць.

Ён быў дзівак, любіў спакойны шум дубровы.
Мцзыка быў, о, як ён мог іграць!
А потым выйшаў рваць-знімаць з другіх аковы.
Памёр — другія выйшлі паміраць...

Ён першы быў, як сон вясны, як летуценне.
Дык плач, пясняр, ўздымай ў грудзях агонь —
Упала маці з плачам, з крыўдай на калені
І вобраз маткі бачыла другой.

І гэты дальні дом, і гэты спеў музыкі
Ўзнялі агнём жаданняў і журбы
Акорд ў грудзях яе, акорд ў душы вялікі,
Бо толькі маці можа так любіць!

*1927 г.*

* * *

Адсумаваўшы маладосць сваю,
І ён прыйшоў ў краіну лістапада:
Стамлёны клён абсыпваў галаву
За залатую клетку
Раненага саду...

Ў блакітным возеры усёй сусветнай
Разбіты месяц горда патанаў,
І хтось з зямлі пужліва,
Непрыкметна
Яму рукой,
Як з берага, махаў!..

Давай, мой друг далёкі і нязнаны,
Бярэм чаўнок юнацкіх пачуццёў.
У нас ў грудзёх
Адны і тыя ж раны,
Адзін і той жа ўспыхвае касцёр.

Хутчэй адсюль,
З краіны лістапада.
Хутчэй к цяплу, і к людзям, і к зямлі.
Хай наш чаўнок
Нясе нас ў дзверы сада,
Дзе зоры з кветкамі на градах дзён ўзышлі.

*1928 г.*

### БЕЛАРУСІ

I

Заспявала ты вольную песню, Айчына,
Быццам нехта з нядолі
Раскуты прыйшоў...
І з любоўю таварыша,
Друга
І сына
Пацягнула к табе ўсёй душой...

О любімая кветка!..
О маці...
О песня!..
Як аддзякаваць?
Як прывітаць?..
Ты, як лёс твой, нядолі равеснік,
Навучыла тваім,
Ўсёпрымаючым, стаць.
Навучыла і жыць,
І змагацца,
І верыць...
Ў грудзі дала мне сэрца, а ў сэрца агонь.

І пявучую сілу
Сумуючай леры
Я панёс ад чужых берагоў...

Я іду па тваіх пуцявінах-дарогах —
Кроплі сонца,
Бяскрайнасць і сінь у вачох;
І тваё вызваленне
З пацёмкаў былога
Узнімаю, як сцяг барацьбы,
На плячо...

І з любоўю таварыша,
Друга
І сына
Я аддаўся табе ўсёй душой:
Я паверыў у здольнасць вялікай Айчыны,
Пакланіцца у ногі к табе
Я прыйшоў!..

II

Дні ідуць, праходзяць і знікаюць
Лістапада сіняй чарадой.
Пакладзецца ўсё жывое камнем
У сталёвым поступе гадоў.

Шлях гранітны й сцежкі залатыя.
Горад пыльны, сінія палі.
Ў непагоду йшлі й кроў не стыла,
Нас агні, агні ўпярод вялі.
І калі сягоння — кінуць камнем,
Кінуць камнем з дальняга кутка,
Ўсё ж не змеркнуць светлыя жаданні
І не знікне дужасць у руках.

Хай скрыгочуць здраднікі Айчыны
З іх бяссільнай злосцю у вачах, —
Наша мэта — дарам не загіне,
...І не згаснуць сілы у грудзях!..

Не патухнуць светлыя жаданні,
Кроў не стане ў жылах халадней...
І ў агні палаючых паўстанняў
Край рука чужая не кране.

Пройдуць дні, заменяцца вякамі...
Пройдуць дні мяцежнай чарадой...
Пакладзецца ўсё жывое камнем
У сталёвым поступе гадоў...

*1928 г.*

### ЖЫЦЦЁ, ЯК МОРА-АКІЯН

Жыццё, як мора-акіян...
А шчасце — бераг дальні...
Ідзе ў пустэльні караван
Пад гукі ветраў пахавальных...

Цвітуць ў Італіі сады...
І сонца там, і мора бліжай,
І ты глядзіш з журбой туды,
Над даллю рукі ўзняўшы крыжам.

Хмяльней там дзікае віно.
І там гучней гудуць факстроты,
А мне, мой дружа, ўжо даўно
Абрыдла ўсё, нат воблік цноты...

Шчаслівы я, што тут жыву.
Й за гэты край вясной вялікай,
Быць можа, знімуць галаву,
Праколюць цела вострай пікай.

І ты, быць можа, скажаш ты,
Што любіш ты і не забудзеш,
І ўсіх зямных краін сады
Мне прынясуць вянкі на грудзі...

І зноўку пройдзе караван,
І бераг мора будзе біцца.
Жыццё, як мора-акіян...
А лёс мой — віхар-навальніца...

Што ж мне Італіі цяпло?
І той спакой, і сонца поўдню?..
Пад родны скрып тваіх калёс
Я песні родным сном напоўню!

*1929 г.*

### ПАЎЛЮКУ ТРУСУ

Ну што сказаць? Ну як паверыць?
Журбой вятры спавілі даль.
І стала раптам
Біцца сэрца,
Нібы закутае у сталь...

О, дружа блізкі і далёкі,
Пад крыкі сумных жураваў
Упаў на дол,
Як ясны сокал,
З разбітай лёсам галавой...

Крычыце, буры і пажары,
Хаўтурны марш, узнімай агонь...
Памёр паэт...
Памёр таварыш...
Упаў на полі верны конь.

Шумяць палі...
Бунтуюць хвалі...
І сумна слёзы лье сасна...
Няўжо ж цябе мы
Пахавалі?
О... Нашай лірыкі — вясна!

Няўжо не восеньскімі днямі
І не пад
Чэрвеньскай зарой
Ты і спяваў... і жыў між намі,
І раздаваў сябе парой?

Бывай жа, дружа. Дзіўным ранкам,
Такім жа светлым, як і ты,
Цябе спаткае
На світанні
Твой вобраз сумнай сіраты —

Алеся з кветкамі
І лірай,
І на зары ў шырокі свет
Табе па-брацку
Скажа шчыра,
Што ты сапраўдны быў паэт...

І прыйдзем мы...
І зложым гімны...
Памёр паэт... агню няма...
І вось пад гэты боль
Нястрымны
Хтось скажа: жыў ён не дарма.

Хачу партрэт у чорны колер
Узяць, а у душы,
Нібы праз дым,
Твая прыснілася мне
Доля —
Жыць і памерці маладым.
Згасае лямпа...
Ў сэрцы цёмна...
Скажы, о брат... скажы, нашто
Я сніў цябе
І сніў твой помнік?..
...І ўжо далей ніяк не помню,
Як слёзы ўпалі над лістом...

*1929 г.*

* * *

Я помню, — яблыні цвілі,
І вецер заліваўся смехам
Ў расой апырсканай далі.

Пад месяцам гарэлі стрэхі
Халодным колерам сваім.
Палала ноч, і вёска спала,
Спявалі ціха паплавы,
А мне чагосьці неставала.

Я абыходзіў сад вакол
І вуснамі кранаўся кветак,
Якія колісь рваў рукой
Другі, асмеяны паэта.

Усё праходзіць чарадой,
І ўсім даецца сум і радасць,
І ўсе спазналі горыч здрады,
Калі стыкаліся з бядой.

Я ведаў ўсё. Ўсяму цану
Спазнаў за словамі чужымі,
І я нікога не кляну,
Не называю й дарагімі.
Шляхі вялі мяне ў туман,

А я імкнуўся да сузор'яў.
Й таму мо хцівасці няма
Ў маіх нявыказаных творах.

Прайшлі жалезныя гады
І ўзварухнулі ў сэрцы нешта,
І я сягоння, як заўжды,
Сябе выказваю да рэшты.

Інакшы сад цвіце кругом,
І нашы песні іншым складам
Вядуць да новых берагоў
Свае ўдарныя брыгады.

Які далёкі, грозны шлях,
А колькі ж вёснаў адпалала!
І мне чагось (ну, проста жах!)
Ўсё нестае, як неставала.

*1931 г.*

ВЫСТАВЫ

# ШТО ВЕК XX НАМ ПАКІНЕ?

Уладзімір Цеслер і Сяргей Войчанка — адны з самых яркіх беларускіх мастакоў. Яны заўсёды збіраюць шмат гледачоў, бо ўмеюць заінтрыгаваць публіку. Памятаю, некалькі год таму ў Мастацкім музеі людзі былі шакіраваны карцінамі Войчанкі і Цеслера. Іх здзіўлялі рамантычныя нязвыклыя сюжэты, мала хто разумеў тэхніку выканання. Разгадцы апошняй (мастакі наўмысна не расшыфравалі) былі прысвечаны амаль усе запісы ў кнізе водгукаў. Некаторыя карціны з той выставы вісяць цяпер у адным з элітных салонаў-магазінаў Мінска.

Уладзімір і Сяргей скончылі аддзяленне дызайну Беларускай акадэміі мастацтваў і шмат гадоў працуюць разам. Днямі ў Палацы мастацтва творчы дуэт прадставіў праект "Дванаццаць з XX". Тры гады доўжылася над ім праца. Уладзімір Цеслер нават назваў гэты працэс аванцюрай, бо ён вымагаў шмат грашовых, тэхнічных сродкаў, працы з самымі рознымі матэрыяламі. У выніку атрымалася выстава, якую старшыня Саюза мастакоў Беларусі Генадзь Буралкін назваў дызайнам на самым высокім узроўні, які спалучае дасканаласць тэхналогій са смеласцю думкі. Дванаццаць экспанатаў — гэта дванаццаць мэтраў нашага стагоддзя ў скульптурнай выяве — у выглядзе яйка. Сяргей Войчанка і Уладзімір Цеслер адабралі тых асоб, якія адлюстравалі і ў многім сфарміравалі свядомасць, густ сучасніка. Сярод работ — вобразы Іосіфа Бродскага (яйка чыстае, празрыстае, са шкла), Уладзіміра Маякоўскага (ці то бомба, ці то сэрца, закаванае ў металічны абруч з шурупамі), Уладзіміра Малевіча (зробленае з чорнага акСаміту), Сальвадора Далі (кажуць, залатое) і іншыя.

Уладзімір Цеслер і Сяргей Войчанка папярэдзілі: тое, што яны паказваюць, — не гісторыя мастацтва, а іх вольны, суб'ектыўны выбар значных асоб. Мінулае тысячагоддзе пакінула нам дванаццаць апосталаў. Да іх узроўню яшчэ ніхто не падняўся. Але на мяжы вякоў ёсць нагода ўспомніць і адлюстраваць тых, хто праславіў наша стагоддзе. Аўтары выставы лічаць, што мы жывем у час "крайняга агалення парадоксаў у гісторыі чалавека: перамогі ягонага інтэлекту, з аднаго боку, і войн, нечуваных па маштабу разбурэнняў — з другога".

Яйка — сімвал, які існуе ў народных абрадах і ў мастацтве нагогул. У Цеслера і Войчанкі яно мае памер плода ва ўлонні маці, яйка дыназаўра.

Спачатку была задума зрабіць творы больш умоўнымі, графічнымі. Але калі мастакі дакрануліся да шкла, металу, тыя падказалі форму скульптур. З жывым матэрыялам, па словах Сяргея Войчанкі, па-асобаму працуецца, ён інакш дыхае. У экспанатах прысутнічае лёгкая іронія. І нездарма: спачатку іх хацелі выканаць як пароды.

"Дванаццаць з XX", як і любая іншая выстава Сяргея Войчанкі і Уладзіміра Цеслера, здзівіла сваёй свежасцю. На ёй не сумна. Тут адчуваеш прысутнасць музы. Думаю, што калі хто-небудзь іншы рызыкне вылучыць у сваім праекце колькі найцікавейшых мастакоў, Цеслер і Войчанка не застануцца па-за ўвагай.

**Алена СПАСЮК.**








*Іосіф БРОДСКІ.*



*Віктар ВАЗАРЭЛІ.*



*Гюнтэр ЮКЕР.*



*Уладзімір МАЯКОЎСКІ.*

**НА ЗДЫМКАХ: (уверсе) на адкрыцці выставы; афіша да выставы: партрэты мастакоў на паштовых марках.**

**Фота Віктара СТАВЕРА і БелТа.**

ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

# СЕРЖЫКАВЫ АПАВЯДАННІ

## СЛУП У ЛЕСЕ

Пры нашых дачах, нашых лецішчах, засталася добрая дзялка лесу. Лес, вядома, — гэта заўсёды цуд. Аднаго разу мы натрапілі з Сержыкам сярод таго лесу на невысокі копчык з слупам і шыльдачкай на ёй.

— Дзядулька, — пытаецца Сержык, убачыўшы той слуп, — а што на ім напісана?

Я кінуў вокам на шыльдачку: "Осторожно! Газопровод! Копать запрещается!" Прачытаў і думаю: "Скажы яму, што тут напісана, — пытанняў не абярэшся, ды і тэма не вельмі цікавая. Скажу яму што-кольвек блізкае, зразумелае". І прыйшло мне ў галаў сказаць: "На гэтым слупе напісана, што малым дзецям у лес хадзіць адным, без дарослых, нельга". Вядома, без пытанняў не абышлося: і чаму дзецям адным нельга без дарослых хадзіць у лес, а калі пойдзеш, то што будзе?

На ўсе гэтыя пытанні я патлумачыў, што дзеці могуць адны ў лесе заблудзіцца, уваліцца ў глыбокую яму. Вядома, пра ваўкоў яму сказаў, пра рысяў, пра жукоў... Адным словам, страху рознага нагнаў.

Праз нейкі час мы зноў з Сержыкам пайшлі ў той жа наш лясок. І зноў трапілі на той копчык з слупком на ім і шыльдай. Але на гэты раз з намі было і колькі Сержыкавых аднагодкаў з суседніх лецішчаў. І ўжо Сержык, убачыўшы той лясны слупок на грудку, тлумачыў сваім аднагодкам:

— На слупе, — казаў ён з усёй сур'ёзнасцю, — напісана, што малым дзецям нельга адным хадзіць у лес.

Вядома, і пра ваўкоў ён згадаў, і пра яму, і пра ўсё астатняе.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**



У 84 гады Марыя ЧУБАРАВА паспяхова спраўляецца з немалой гаспадаркай. Дапамагае ёй у гэтым праўнук сямікласнік Дзіма. А вось ручнікі Марыя Андрэеўна па-ранейшаму вышывае сама, вочы яшчэ не падводзяць.

**Фота Валерыя БЫСАВА.**

КРЫЖАВАНКА

# УСЕ СЛОВЫ ПАЧЫНАЮЦЦА З ЛІТАРЫ «П»



**Па гарызанталі:** 5. Салодкі коржык на мёдзе. 6. Паўднёвае фруктовае дрэва. 9. У грэчаскай міфалогіі: выкрадальнік жонкі цара Спарты — Алены. 12. Пасудзіна для піцця ў Сярэдняй Азіі. 13. Горная сістэма ў Сярэдняй Азіі. 14. Невялікае ўзвышша з роўнай паверхняй. 18. Жывёліна з сямейства малпаў. 19. Матэрыял для пісьма ў старажытнасці. 20. Металічны каўпачок з выбуховым рэчывам у патроне. 23. Горад у Паўднёвай Карэі на ўзбярэжжы Карэйскага праліва. 26. Возера ў Беларусі, у Глыбоцкім раёне. 27. Горная сістэма ў Еўропе. 28. Памяшканне пад першым паверхам будынка. 29. Агульная назва нізкарослых плямён у Афрыцы. 32. Рускі жывапісец-перасоўнік. 34. Вялікі вершаваны твор. 35. Маёмасць дзяўчыны ад бацькоў у час замужжа. 40. Антычны горад у Італіі, знішчаны вывяржэннем Везувія. 41. Агародная расліна-караняплод, прыправа. 42. Сакрэтнае ўмоўнае слова. 46. Без станка і без рук, а кросны тчэ (загадка). 47. Сталіца дзяржавы ў Еўропе. 49. Дзіцячая цацка ў выглядзе пісталета. 50. Мастацкі музей у Мадрыдзе. 51. Раённы цэнтр у Віцебскай вобласці. 52. Французскі мастак, аўтар пано "Герніка".

**Па вертыкалі:** 1. Дробны друкарскі шрыфт. 2. Частка мужчынскага касцюма. 3. Грашовая адзінка ў Іспаніі. 4. У Старажытнай Грэцыі жрыца-прарочніца ў храме Апалона ў Дэльфах. 7. Архітэктурна аформлены галоўны ўваход у будынку. 8. Планета Сонечнай сістэмы. 10. Невялікі вартавы атрад, застава. 11. Рух вады ў рэчках, морах. 15. Бог грому і маланкі ў міфалогіі ўсходніх славян. 16. Месцы ў глядзельнай зале тэатра. 17. Раённы цэнтр у Брэсцкай вобласці. 21. Мімічны спектакль без слоў. 22. Знакамітая расійская балерына. 24. Майстэрства кіраваць лятальным апаратам. 25. Паўднёвая вадаплаўная птушка. 30. Жанр жывапісу. 31. Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Беларусі да 1930 года. 33. Сухі трапічны вецер. 36. Паўночная марская рыба сямейства камбалавых. 37. Шкодная жывёліна-грызун. 38. Дыван без ворсу. 39. Група выдатных дзеячаў у галіне навукі, культуры ў адну эпоху. 43. Старажытная зброя ў выглядзе дубінкі. 44. Злакавая расліна, пустазелле. 45. Рускі вучоны, вынаходнік радыё. 48. Збожжавы злак.

**Склала Святлана ФАЦЕЕВА.**

**«Голас Радзімы»**

**Галоўны рэдактар Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

РЭДАКЦЫЯ:

Адказны сакратар **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 625 экз.
Зак. 2050.
Падпісана да друку 25.10.1999 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).